# АЗЁРНАЯ ШКОЛА ПАЭЗІІ

*Творы фіналістаў літаратурнага конкурсу*
*імя Максіма Танка*
*і ўдзельнікаў паэтычнага пленэру,*
*прысвечанага 100-годдзю Максіма Танка*
*(возера Рака, Браслаўшчына, чэрвень 2013)*

Укладальнік і рэдактар
Андрэй Хадановіч

Мінск
2014

# *Ўільям Ўордсварт*

*(1770—1850)*

## ***Блукаў я хмараю самотнай...***

Блукаў я хмараю самотнай,
Што над пагоркамі плыве,
Ды ўбачыў: купкай бесклапотнай
Нарцысы ззяюць у траве.
Схаваўшыся пад дрэў камлі,
Яны свой танец завялі.

Яны гарэлі, нібы сонцы,
Што сабраліся ў Млечны Шлях,
І віўся іх ланцуг бясконцы
Уздоўж затокі, у палях.
Мне кветкі чарадой жывой
Ківалі ў танцы галавой.

А побач — танец хваль, аднак
Ім кветкі не пераўзысці,
Якія для паэта — знак,
Каб быў шчаслівым у жыцці,
І я не ведаў, што наўкол
Сапраўдным скарбам ззяе дол.

Цяпер, як млява я сачу
Сваіх няспешных думак ток,
Яны з’яўляюцца ўваччу —
Самотнай радасці глыток:
Душа лунае без турбот
І з імі водзіць карагод.

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

# *Сэмюэл Колрыдж*

*(1772—1834)*

## ***Эолава арфа***

Задумлівая Сара! Ты шчакой
Мне да рукі прыціснулася, мы
Сядзім, спакойныя, перад хацінай,
Яе схавалі ў цені мірт, язмін
(Кахання сімвалы й высокіх цнот).
Глядзім у неба — позняе святло
Паціху гасне, ды ўзыходзіць зорка,
Нібыта мудрасці зіхоткі знак.
Салодкі водар вецер скраў з палёў
Бабовых, свет вакол зусім прыціх,
І лёгкі шэпт аддаленага мора
Расказвае пра цішу.

Лютні гук,
Якая ля акна вісіць, пачуй!..
І лашчыць кожны ветрыку павеў
Яе, нібы дзяўчыну, што здаецца
Каханаму, гучыць адно дакор,
Каб быў смялейшым. Вось кранае ён
Яе струну — і паслухмяна ноты
У хвалях тонуць і ўсплываюць зноў,
Яны — нібыта чарадзейны спеў

Тых эльфаў, што выходзяць на змярканні,
Пакінуўшы нам невядомы край,
Дзе птушкамі з чароўных райскіх шат
Гучаць мелодыі ў мядовым квеце —
Заўжды няспынна, дзікім, ім лунаць!
Адно жыццё ўнутры нас і наўкола,
Яно — адзіны рух, адна душа.
Гучыць святло, святлом палае гук,
У кожнай думцы — рытм, у сэрцы — радасць.
Мяркую, немагчыма не ўсхваляць
Усё, чым поўны неабсяжны свет,
Дзе ветрык грае й ціхае паветра
Ёсць музыкаю, што на арфе спіць.

Так, любая! Калі прылягу я
На схіле вунь таго пагорка ўдзень,
Прымружу вочы й буду сузіраць,
Як танчаць дыяментавыя промні,
Разваг спакойных поўны пра спакой,
Перасячэ фантазій лёгкіх плынь
Мой нерухомы і бяздзейны мозг,
Нястрыманых, дзівосных, нібы вецер,
Што на ціхмянай лютні сёння граў.

І што, калі прырода ўся наўкол —
Жывыя арфы, розныя абліччам,
Што думкамі трымцяць, як праляціць
Праз іх бязмерны і разумны вецер,
Які Душа ўсяго і Бог для ўсіх?

Ды бачу я ў вачах тваіх дакор,
Каханая! Такія думкі — грэх,
Належыць іх адразу адганяць.
Ты кажаш, што адзіны шлях — да Бога,

Ціхмяная дачка ў сям'і Хрыста!
Ты не ўхваліла выдумак маіх,
Якія спарадзіў бяздушны розум, —
Як бурбалкам, аднойчы лопнуць ім
У марным філасофскім ручаі.
Не здольны гаварыць я пра Яго,
Неспасцігальнага, адно спяваць хвалу
З трымценнем і глыбокай, шчырай верай,
Таму, хто лекаваў душу маю
І грэшніку няшчаснаму калісь,
Што заблукаў, спакой падараваў,
І гэтую хаціну, і цябе!

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

# *Максім Танк*

*(1912—1995)*

***

Ца… цябе моцна
моцна, моцна…
Што ж мне сказаць:
і тое, што кахаю,
і тое, што сумую,
і тое, што без цябе тужліва — ты ведаеш.
Праўда, аднаго ты не ведаеш.
Учора ля сажалкі
ў вадзе застаўся твой вобраз і адбіты на зялёных хвалях
смех. Я скраў яго ціха ў ранішняй заранкі. Ты даруеш
мне, бо заранка ўжо выбачыла, пераўтварыўшыся
ў сонца.

***

Людзі парываюцца ўвекавечыць каханне ў мармуры, у песні. Вечнае нельга закаваць у тое, што латашыць час і выпальвае сонца. Таму ад тугі па каханні людзі ставяць помнікі, а калі яно прыйдзе — маўчаць, аслепленыя ягоным бляскам.

*Пераклала з польскай Марыя Пушкіна*

# *Аляксей Арцёмаў*

***

Зацярушаны снегам і соллю,
Засынае асфальтавы вечар
З марай сціплай: даведацца болей
Пра жыццё, пра нябыт чалавечы.

Ён, напэўна, хацеў бы тактоўна
Папытаць мінакоў выпадковых:
«Бачыш неба? Аблокі, як з воўны.
Дык чаму на зямлі толькі ковы?»

Не пачуюць яго, не адкажуць —
Гук змяшаецца ў гоман птушыны,
Толькі шлейфам з бензіну ды сажы
У паўзмроку абдораць машыны.

І нарэшце асфальтавы вечар
Засынае з нязбытнаю марай,
А над горадам бляску й галечы
Пралятаюць ваўняныя хмары.

## *Млынар*

Стары памёр, і чорт асірацеў.
На млынішчы мукі не засталося,

І толькі ў небе ў чорнай пустаце
Чуваць, як за ракой шуміць калоссе.

Дыск сонца за здзічэлым лесам знік,
І каламуціць зноў ваду рачную
Парослы багавіннем вадзянік,
А млынара на беразе бракуе.

Слязой халоднай абрасіць смуга
Парэзаныя земляныя вены,
І кроў замест вады разбурыць гаць —
Падмельшчык малады ідзе на змену.

***

Душа мая — нявольніца:
І хочацца, і колецца
Прайсці па наваколлі ці
Глядзець у хісткі змрок

І слухаць, як пад клёнамі
Трава шапоча сонная
І пасмамі зялёнымі
Змякчае кожны крок.

Шаўковымі кілімамі
Плывуць дарогі-лініі,
Ды толькі змрок адрыне — і
Працягне час свой бег.

Хай застанецца лепшае —
Лісты, цыдулкі, вершыкі,
Сусвет святлом усцешаны,
І шчасце — для цябе.

## ***Камінар***

Шпакі галілі крыламі паветра,
Гарэў заход, прыгожы, як мана.
На вышыні недасягальных метраў
Хадзіў па дахах чорны камінар.

Блукаў штовечар ён без працы новай
І зразумець не мог, што ўсё дарма.
У джунглях гарадскіх шматпавярховых
Ёсць камінар, а комінаў няма.

Жангліраваў кастрычнік жоўклым лісцем,
Ды слухаў чалавек, як вецер ныў.
Замест жыцця надзеі засталіся,
Але каму патрэбныя яны?

І доўжыцца дасюль ягоны шпацыр,
І сумна ўніз глядзіць мурзаты твар...
Чамусьці пачынае мне здавацца,
Што я такі, як гэты камінар.

***

Цемра шыбы залепіць і дзень праміне,
Напляце павуцінку мароз на акне,
На дварэ заскрыгоча завея...
Сёння я ўпершыню цябе бачыў у сне —
Ты ў крыштальную далеч сышла ад мяне,
Дзе ад сцюжы ўвесь свет прамянее.

Сон мой хутка растаў, як сняжынка вясной.
Лямпа зноў асвятляе няўтульны пакой,
Дзесь за шыбай віецца дарога.

Кіну ўсё, каб напоўніць душу цеплынёй,
Развітаюся ўрэшце з самотай сваёй...
Толькі побач са мной — анікога.

Веру, зменіцца ўсё! Веру, будзе яшчэ
Шчасця міг, подых твой, за сняжынку лягчэй,
І каханне, адно, назаўсёды.
А пакуль маё сэрца завея сячэ
І на позірк халодных блакітных вачэй
Прамяняць я гатовы свабоду.

## *Элегія паспешнасці*

Спяшаюся. Усё наперакос.
Спяшаюся са старту, ад пачатку.
Бягу ў кантору, дзе паставіць лёс
У бланк жыцця апошнюю пячатку.

Сярод мітрэнгаў прамінаюць дні,
Хоць нават непакоіцца не трэба.
Марную зноўку час у мітусні,
І пада мной амаль дыміцца глеба.

Але жыве пытанне, як жыло…
Кажу сабе: «Куды ж ты, небарача?»
Я кідаюся з цемры на святло.
Чаму? Бо я святла яшчэ не бачыў.

## *Кавярня*

Ля станцыі ў кавярні прыдарожнай
Не захмялець — адно напіцца можна,

Але нашто мне піва і віно?
Я на адной з такіх спусцелых станцый
Збаяўся — і не змог з табой застацца,
А верасень у жоўтым кімано
Махаў галлём неабляцелых клёнаў.
Я чуў: ты ўслед мне сыпала праклёны —
І прамаўчаў, і зноў паскорыў крок.
Загояцца марудна ў сэрцы раны:
Не вылечыць і столік рэстаранны...
Сяджу ў кавярні. Побач сцэна й змрок.
І робіцца чамусь ніякавата:
Пяе жаночы голас пра расплату,
А гук ляціць і растае ў журбе...
Я выйшаў на свабоду з душнай залі
І хутка апынуўся на вакзале...
Але скажы: як збегчы ад сябе?

# *Інгеборг Бахман*

*(1926—1973)*

## ***У навальніцы ружаў***

Куды мы імкнемся падчас навальніцы ружаў,
калі шыпы асвятляюць ноч, а маланкі
лісцяў, што сціхлі ў зарасцях,
за намі ідуць крок у крок?

## ***Песні з выспы***

Калі з’язджаеш, трэба капялюш,
поўны ракушак, за лета
сабраных, кінуць у мора
і ехаць з ветрам у валасах,
трэба стол, які ты накрываў
свайму каханню, скінуць у мора,
трэба рэшткі віна,
што засталіся ў келіху, выліць у мора,
трэба свой хлеб аддаць рыбам
і кроплю крыві распусціць у моры,
трэба нож закінуць далёка ў хвалі,
і затапіць свой абутак,
сэрца, якар і крыж,
і ехаць з ветрам у валасах!
І ты вернешся.
Калі?
Не пытай.

*Пераклала з нямецкай Наталля Рудак*

# *Сабіна Брыло*

## ***Нястрашны суд***

Дзверы не абароняць цябе,
І твой сабака не абароніць,
Ні тэхніка бяспекі, ні жоўты твой пояс,
Ні любімы нумар у тэлефоннай кнізе,
Калі ў цябе запытаюцца: «Вы Ёзэф К.?» —
Ты пагодзішся, бо каму ўжо патрэбна
Ведаць тваё імя.

І паперы, твае дыпломы й дыягназы,
Не спатрэбяцца, бо да той справы
Падшываюцца іншыя дакументы
(Ты ніколі іх не ўбачыш),
Толькі нейкі табе аднойчы
Дасць мокрую ватку на вусны,
А нейкая абдыме ногі,
І здыме цэтлік «К.»

## ***Страшны Ён***

Калі ты сядзіш у ванне
і ў тваёй кватэры
з жывых — толькі лядоўня
ды механічны гадзіннік,

то варта табе аб гэтым
падумаць — святло знікае.
І па халодным поце
бягуць струмені гарачай;
а *Ён* цябе не чапае,
адно — усміхаецца.

## *Малітва паганкі*

Бацька мой, бацька, каторы ёсць у небе!
Каторы сядзіць там недзе праваруч свайго бацькі —
майго дзеда,
Які, у сваю чаргу, абапіраецца на старога,
Што пайшоў з жыцця, калі я не была яшчэ мною, —
Перадай прывітанне, бацька, усёй радзіне!
А мае ж вы такія родныя,
А такія ж крэўныя!
А ці ж я ў вас калі што прасіла?
А ці ж калі я што ад вас чакала?
Не прашу й цяпер — ні хлеба, ні адпушчэння,
Толькі дайце, каб самалёцік наш прызямліўся,
Падтрымайце белы ды за абодва крылы,
Перайміце ў ручнік нябачны яго ласкава…
Дзякуй!

# *Бертальт Брэхт*

*(1898—1956)*

## *Замена кола*

Я сяджу на ўзбочыне.
Кіроўца мяняе кола.
Мне кепска там, адкуль прыехаў.
Мне кепска там, куды падамся.
Дык чаму я гляджу на замену кола
з нецярплівасцю?

*Пераклала з нямецкай Наталля Рудак*

# *Нупрэй Бухановіч*

## ***Сучасны паэтычны маніфест***

а) калі вы паэт — не ўслаўляйце валошкі ў жыце,
пра каханне, пра рунь на палях, прашу, не пішыце;

б) калі вы паэт — абавязаны ганіць і пляміць,
ні на што не зважаючы, усіх абкладаць кіямі;

в) калі вы паэт — абвяргайце бронзавых ідалаў,
абсірайце, а то з паэтычнае партыі выдалім;

г) а лепей — пішыце заўжды пра мінеты:
цяпер гэтак робяць прыстойныя ўсе паэты.

## ***Амаль трэнас***

Хтосьці трахае феяў,
Хтосьці ўпіваецца півам,
Хтось ванітуе прозай
І назапашвае тую літрамі,
Хтось займаецца энталіптамі,
Хтосьці жыццё ўжывае з перцам,
А хтось неспакой свой падсольвае,
А каханню тым часам бракуе любові,
І любові бракуе каханьня,
І ў паэзіі ўжо не бачна паэзіі.

## *Канстатацыя*

Паэты не чытаюць вершаў.
Спажыўцы не чытаюць нічога.
Дзякуй адным і другім
за паэзію нечытання.

Паэты не пішуць паэмаў,
чытачы толькі пішуць, і пішуць, і пішуць.
Нат і не ведаю,
каму ўрэшце выказваць падзяку.

# *Кацярына Глухоўская*

## *Мама*

Мама спявала да неба
сваю тугу,
Мама садзіла ля дома
чароўны квет,
Мама хадзіла да студзенкі
па ваду
І палівала студзёнаю
белы свет.
Мама блукала па лесе,
па гушчары,
Мама спаткала мяне
і сям'ю ваўкоў,
Мама чытала ім казкі,
дзе ёсць звяры,
І вызваляла мяне
ад сямі замкоў.
Мама спявала да неба.

***

Па беразе, па беразе, ды па заінелым беразе,
Па беразе, па беразе хадзілі журавы.
І з берагоў па верасе, па верасе, па верасе,
І з берагоў па верасе былі бралі травы.

Мы бегалі, мы бегалі, мы плакалі, мы плакалі,
Мы падалі, мы падалі — калені да касцей.
А сонейка рудзенькае сабачкам з намі звя́гала,
Праз туманы да берага кацілася хутчэй.
Трава была чароўная, трава была атрутная,
Трава была балотная — была разрыў-трава.
Стаялі мы самлелыя, а журавы — пакутныя.
Стаім цяпер спакойныя, а журавоў — няма.

## *Русалка*

Ты, русалка, не спявай, не спявай —
Кліча вецер у загублены край.
Не гайдайся ты на ніцай вярбе,
Не чаруй на грабянцы па журбе,
Не прасі нас да сцюдзёнай вады,
А сама выходзь на бераг сюды.
Не губляй сваёй адзінай слязы
У лілеі ды чаротаў хмызы.
Але маці прыгадай, прыгадай —
Успаміны залюляй, загайдай.
Але сёстрам загукай, загукай,
Што дзяўчынаю выходзіш у гай.
Позірк ты, русалка, больш не адводзь:
Непабачанага хопіць шматкроць.
Непрабачанага ў Бога няма —
Непрабачанае робіш сама.
Ты, русалка, не спявай, не спявай:
Кліча вецер у закінуты край,
Дзе цябе чакае нехта жывы
Паміж зёлак ды атрутнай травы.

## *Зоркі*

Гэта зоркі блукаюць у Тваіх валасах,
Весяляцца, смяюцца, нешта шэпчуць няспынна,
І мне хочацца верыць, што ўсё так, як павінна:
Ты на небе, а зоркі — у Тваіх валасах.
Будзе вецер спяваць па бутэльках і целах —
Што адных, што другіх безнадзейна спусцелых.
Што Ты меў на зямлі? Што Ты меў, што я мела?
А цяпер — сотні зорак у Тваіх валасах.
Распускаў маладзік вербаў доўгія косы.
Першы снег на траве, першы снег на вачах —
Гэта зоркі, калядныя зоркі — не слёзы.
Тыя зоркі, што ёсць у Тваіх валасах.

***

Зорку месяцовага святла
Дробны дождж нагруквае ў вышыні.
Кажа дзякуй, што яна была,
Кажа дзякуй, што яго пакіне.
Поўні шлях на споўненай вадзе
Берагі кранае недарэчы,
Тума́ны па возеры вядзе,
Тумано́м імхі ды твары лечыць.
Завівае вецер небасхіл,
Заплятае косамі аблокі,
А драбніцы не хапае сіл,
І смяецца месяц крывабокі.
Чуецца ў тужлівых шатах спеў,
Крок расы па-над глухім світаннем.
І сцяжыны шнарык забялеў,
Забалеў смугой ды смуткам даўнім.
Зорку месяцовага святла

Дробны дождж нагруквае ў вышыні.
Кажа дзякуй, што яму была,
Кажа дзякуй, што яму пакіне.

***

Залатыя званы, залатыя каштаны,
Цёплы водар завулкаў старых.
Залатыя званы з песняй ціхай ды цьмянай —
Пахкай восені сонечны ўздых.
Залатыя званы — пад нябёсамі станы,
Смех дзіцячы ва ўсмешцы старой.
І схіляецца нехта над цёмным каштанам,
Па-над восеньскай старaной.
Залатыя званы. Раскідаючы крылы,
Адлятае чырвоны каштан.
Ападаюць лісты. Між камення і пылу
Застаецца аголены стан.

***

(*трыялет*)

Як плача крапіва ў руках схуднелых!
То рвецца прэч, то абвівае іх —
Нібы шалёны танец на траіх:
Як плача крапіва ў руках схуднелых!
Душа яе цвіце ў пялёстках белых —
Пакуль прыснёных, некалі — сваіх.
Як плача крапіва ў руках схуднелых:
То рвецца прэч, то абвівае іх!..

# *Джон Глэндэй*

*(нар. у 1952)*

## ***Бляшанка кансерваў***

*(адкрывалку для кансерваў*
*вынайшлі праз 48 год пасля бляшанкі)*

Калі ты папрасіла напісаць верш пра каханне
(*яшчэ адзін* верш пра каханне), я адразу ж
падумаў пра світанне

кансервавай прамысловасці —
усе гэтыя маркі, што аселі ў маёй галаве яшчэ ў
дзяцінстве:
Del Monte, Green Giant, Fray Bentos, Heinz.

Я падумаў пра Франкліна і яго цынготную каманду,
як яны ціха дрэйфавалі на паўночны захад праз поўнач
да глiністых узгоркаў уласных магілаў,

і падумаў пра першую бляшанку з персікамі,
якая ўпарта ззяла на пыльнай паліцы ў каморы,
нібы яшчэ не адкрыты радый, —

самую першую бляшанку з персікамі
у свеце, і мае пальцы, што паўстагоддзя
намагаліся да яе дацягнуцца.

## *Быццё*

Адзіная Матэрыялісцкая Царква верыць,
што кожнае імгненне Бог знішчае сусвет
і тут жа будуе яго наноў пазбаўленым памяці.

Усё ад пачатковай бясформеннасці
і да апошняга сполаху святла пацвярджае сабой
гэтае няспыннае праяўленне Яго любові.

Яе Біблія складаецца з адзінай кнігі,
прадказальна названай «Быццё».
Там можна прачытаць пра куст, што згарае,

спавіты жахлівай цішай, і закінуты сад,
у якім няма ані пладоў, ані змея, і толькі
яны, аголеныя й нявінныя, з надзеяй чакаюць поплеч.

## *Каўчэг*

Ці ж мы напраўду верылі,
што нашае каханне зможа выжыць
на тым чоўне, невядома кім ці чым
для нас збітым з гнілых кедравых дошак,
прасмоленым, пакрытым саломай,
усё, каб толькі мы ўдваіх перажылі патоп —
без ворана, што падняўся б насуперак дажджу,
без галубкі, што вярнулася б з галінкай у дзюбе?

*Пераклаў з ангельскай Андрэй Вылінскі*

# *Тадэвуш Дамброўскі*

*(нар. у 1979)*

***

лётаюць тут без перапынку гэтыя ікары, я
ужо не звяртаю ўвагі, — кажа араты, не
адрываючы позірку ад глебы, рук ад плуга.

я не люблю тут лавіць, бо часта ўлазяць у сетку
гэтыя ікары, і трэба выблытваць з петляў
рукі і ногі, — кажа рыбак. Усе

балбочуць пра лятучых людзей, дык я часта гляджу
у неба, але ніколі яшчэ не бачыў,
— прызнаецца пастар. Я запісваю іх словы

ля ўваходу ў метро і бачу, як на сходах
спатыкаецца п'яны мужчына

і ляціць уніз

## *Другая частка праўды*

Бабуля займаецца касцёльнай крамай і
учора, зусім ні за што, яна дала мне святога
Францішка, добра ведаючы, што я маю Ісуса і
блаславёную сястру Фаўстыну з той самай серыі.

*Сёння зранку быў святы Юры, але ён ужо пайшоў,*
*павінен прыйсці адразу пасля нядзелі зноў*
*(зрэшты, не толькі ён…)*, — так гаворыць бабуля людзям,
а людзі часта слухаюць і шануюць яе.

Каля пятніцы прыходзіць рай, пекла ўжо
не прывозяць (задоўга стаіць), але я маю
дома пекла, і рай, і святых. І калі
я нуджуся альбо смуткую, я стаўлю перад
сабою рай і пекла. У рай я стаўлю тых,
бабульчыных. У пекла — свінку, сапёра і вадалаза.

***

Пану Броніку 85 гадоў. Ён садоўнік.
Даўно не ўстае з ложка, ягоныя сад
і памяць зараслі пустазеллем. Толькі
старая яблыня ведае, што трэба часам нарадзіць
яблык. Пан Бронік цешыцца, калі бачыць у
тэлевізары голых жанчын, тады ён кліча свайго
унука-падлетка і, паказваючы ва ўсмешцы
парадзелыя зубы, гаворыць: глядзі! І дадае:
як збярэшся да дзяўчат, ідзі да
мола, там круцяцца самыя прыгожыя, і мне чаго
прывядзі, як бабка пойдзе ў сад. Гэта
жорстка, — падумаў я,назіраючы за панам
Бронікам, — цела гасне, а жаданне застаецца. А
пасля падумаў пра каханне, якое,
насуперак логіцы, да канца пакідае выбар.

## *Сучасны верш*

Ён, як кажан,
абжывае склепы,
паддашшы, пячоры,

удзень ён спіць,
уначы палюе,
вісіць галавою ўніз.

Патрэбна моцнае ўяўленне,
каб параўнаць яго з птушкай.

Ён сляпы,
шле сігналы,
прымае сігналы.
Можна сказаць: чуе
толькі самога сябе.

Калісьці лічылася, што ён жывіцца
чалавечай крывёю, але яму
хапае і мухі,
хрушча, матыля.

Калі я быў маленькі,
я выходзіў у прыцемках
«на кажаноў».

Я кідаў угару камяні,
а кажан пікіраваў
за імі, у апошні момант
цяміў, што гэта падступства і адразу ж
мяняў курс.

Часам, калі камень
быў большы, кажан стукаўся
аб яго і падаў на зямлю. Паэзія,

калі яна ёсць,
сёння нагадвае камень,
часам — цагліну.

***

Адстаўны прафесар Гарварда,
дзякуй, што ты прыйшоў на сустрэчу са мною,
хоць і меў шмат іншых забаваў на выбар,
вышэй чытаў Шаламун, Памук — на два дамы далей.
Дзякуй, што ты прыйшоў, хоць і пачаў храпці,
перш чым я пачаў чытаць, і прачнуўся толькі
на апладысментах. Цудоўна было глядзець,
як ты апускаешся
у фатэль, як занураешся ў каляплодныя воды
сну, жывячыся маімі метафарамі
праз нябачную пупавіну. А можа, тым часам
ты выходзіў на касмічную прагулянку ў скафандры
славянскай мовы, які ахоўваў цябе ад вакууму.
Або табе нічога не снілася, ты быў самім сабою
пасля інсульту, а я ўтрымаў цябе
у паэтычнай коме. Не ведаю, але, ва ўсялякім разе,
дзякуй, што ты прыйшоў. Для мяне была важнейшая
твая прысутнасць, чым твая непрысутнасць.

## *Туга марнатраўцы*

Вяртаючыся з паэтычнай вечарыны дадому,
я згадаў, што сёння нядзеля, а я
не быў у касцёле. Я падумаў
пра гэта толькі ўваходзячы дадому.

Я ведаў, што, калі яны вернуцца, спытаюць: *Ці
быў ты сёння на імшы? Пра што было чытанне?*
Часу ў мяне было мала, 3, можа, 7 хвілін,
і не было нікога, хто мог бы мне дапамагчы.

Я прагарнуў нататнік з тэлефонамі, можа,
В. Акудовіч (але яго ўсё адно няма),
можа, Андрэй В. Хадановіч (але ў яго няма мабільніка),
Л. Дранько-Майсюк (але ў яго таксама няма мабільніка,
у яго далькажык)
або рэдакцыя «Дзеяслова», а можа,
«Літаратура і мастацтва» ці «ПрайдзіСвет»?

Не было нікога, хто мог бы мне дапамагчы,
я спрабаваў знайсці нумары людзей,
з якімі хадзіў у садок, і
знайшоў, аднак не датэлефанаваўся.

Толькі ў Капанскага нехта падышоў, дзяўчына Капанскага
сказала, што Капанскі сказаў, што ён у
мяне. Так што не было нікога, хто мог бы мне
дапамагчы. Тады акурат тэлефон зазваніў сам.

Гэта быў Адамовіч, калега, які піша, што ж,
гэта я пра яго не падумаў. Адамовіч піша на «Будзьму»,
а раней лічыў, што прыемна быць падобным да
дэміурга. Хто-
хто, а Адамовіч проста мусіў ведаць.

Выявілася, аднак, што Адамовіч напраўду
быў сёння ў касцёле, але не памятае. А
тэлефануе ён мне, каб сказаць, што
ужо ведае, што надрукуе свой новы верш.

Так што не было нікога, хто мог бы мне дапамагчы,
я пайшоў да суседкі, а ішоў я нашмат даўжэй,
чым ходзяць па соль. Яна цярпліва слухала
мяне. Нічога не гаворачы, адпусціла мне віну.

## *да высновы*

1.
паэзія — гэта тады
калі адчуваеш

гэтае
нешта

адчуваеш?

2.
(калі не
перачытай верш
яшчэ раз)

# *Ігар Кананові́ч*

## *Тлумачэнне ў кабінеце дырэктара*
*(настаўніцкі блюз)*

Разумееце, верш залучыў да мяне нечакана.
Павітаўся радком, запытаў: «Як, нябога, жывеш?»
І тады я адсунуў падручнікі, сшыткі і планы:
Служба службай, а творчасць, вядома, найперш…

І затанчыў аловак, як п'яны мужык на вяселлі!
Боль, прыгожы і лёгкі, прадаў мае тайны за грош!
Як на провадзе птушкі, вясновыя літары селі
І шчабечуць на сонца: маўляў, каб і заўтра — не горш!

… Адпусціў я сябе (а які чалавек без заганы?).
Пакарайце, Сан Саныч, парушыў службовы статут.
Разумею: у школе галоўнае — выгляд і планы.
Ды не гэта запомняць… Вымова? Распісвацца тут?..

## *Расстрэл*

Зноў паставілі да сцяны —
Да цаглін, ад свінцу шчарбатых.
Шыхт жаўнераў. Мае паны…
Зноў асуджаны я да страты…

Расстраляйце: даволі жыць
У амбітнай, да смеху, гонцы!..
Каламуць на двары. Імжыць.
Хоць бы зараз — блакіт і сонца!..

Блазнаваў да блюзнерства?
— Так.
Кантрабандай правозіў Волю?
— Так. Я ў вашым грамадстве — брак.
Ды не каяўся ў тым ніколі…

Так — мастак. Можа, вам няўцям,
Што за смак у адценнях ноты…
Спачуваю. Тупым вачам.
А тлумачыць — няма ахвоты.

Падпіраю спінай сцяну,
У кішэні заклаўшы рукі.
Гэтым разам чакаць труну
Ці палохаюць толькі, сукі?..

## *Адліжная экспрэсія*

У такое надвор’е звычайна абудзіцца нешта.
Стане словам, радком — нечакана набудзе вагу.
На тугім скразняку разгарыцца мінулага рэшта,
І тады, натуральна, маўчаць аніяк не змагу…

Безнадзейныя фарбы заплямілі гнеўна нябёсы —
Адарвалі блакіт ад зняважаных болем вачэй…
Дрэвы зладзілі сход і, нязгодныя з праўдамі лёсу,
Ваяўніча шумяць, хоць, вядома, не стане лягчэй…

Не хапае слязы, што паклікала б думкі ад краю!
Не хапае майстэрства паставіць заслоны журбе!
У такое надвор'е хачу — не хачу — паміраю…
У такое надвор'е ўвесь час не хапае сябе…

## *Зязюля*

Цёплы надвячорак
голасам шчасця кліча…

І душа вылятае
зязюляй,
каб на тым
недалёкім ад весніц пяшчоты
узлеску
множыць — да хрыпаты —
твае гады…

## *Свечка па няспраўджаным каханні*

Што згарэла — з попелу не ўстане.
Зерне не знайшло сваю раллю...
Свечку па няспраўджаным каханні
У начным прадонні запалю...

Лёс-нягоднік падмануў абодвух.
Несвоечасовасць — як турма...
Атрымаў не шчасце, а свабоду.
Побач цэлы свет — цябе няма...

Звершаваў пакуты і прызнанні.
Хто-ніхто з сяброў крычыць: «На біс!»
Свечка па няспраўджаным каханні:
Воск маёй слязой збягае ўніз...

## *Абшары кахання*

У свядомасці
трывожна пульсуе
чырвоная жылка:
абшары Кахання…

…якое мае з Любоўю
столькі ж агульнага,
колькі паходня,
кінутая на страху,
з вогнішчам падарожнікаў…

Трэба выжыць:
бо жыць адгэтуль — немагчыма
і абысці — нельга…

Купідон Змроку,
узброены арбалетам,
танчыць
у загусцелым паветры
вакол мяне,
зларадна рагоча:
пачвара ведае
вынік вусцішнай дзеі,
але робіць выгляд,
што ў ахвяры ёсць шанцы…

Я вітаю сэрцам стралу.
Паглынаю сэрцам стралу.
Абдымаю сэрцам стралу.
— Ну вось і сустрэліся, л**ю**бая!..

## *Адпачынак*

Свежыя аблачынкі
спяць
на сасновым голлі.
Вецер чакае.

## *Ваўкалачы блюз*

Красавіцкая
цемра пойдзе
бадзяцца.
Спаткае мяне.

## *Паветраны пацалунак*

Восеньскі лісток
крануў
у палёце вусны.

Паветраны пацалунак
бярозы…

## *Бліскучы пыл*

Бліскучы пыл
асядае на пальцы.

Рассыпаўся
схоплены
промень зоркі.

# *Павел Капанскі*

***

Ми полюбили одне одного в поїзді.
В тебе було три мамціни котлети та салат від бабці,
А в мене дві пляшки пива.
Розмова не клеїлася, тому я почав тобі читати вірша.
Ти мене перепинила, та сказала, що вірші —
це рідкісне гівно.
Я швидесенько переметнувся на прозу,
Ти ж кинула на мене погляд, сповнений жалю.
«А що ти вмієш, окрім того, як кидатися словами?»
Їсти, відповів я, натякаючи на твої котлети, пити,
натякаючи на своє пиво,
Та кохатись, натякаючи на тебе.
Ті згідно кивнула.
Правду казали друзі, чим менший пафос,
тим більший гонорар.

***

рамонт абутку
ў захалуснай будцы
паварот налева
ў спавядальную цемру
пакідаеш туфлі
атрымоўваеш
жалезную індульгенцыю

і выходзіш
на спякотны шлях
з кінутых у цябе
камянёў

у тваю адсутнасць
адбываецца сапраўдны
цуд сутнасць
якога накшталт вяртання
дзявочай чысціні
Венеры
выправіць каблук
набіць набойкі
зрабіць латку
на пацёртым месцы
ля вялікага пальца

сцерці твае паходы
крыжовыя
супраць дзіцяці ў тваім сэрцы
усе начоўкі пад голым небам
затаптаныя недапалкі
у падваротнях
пасля пацалункі ў сухія вусны
і крос ад бацькоў
па неасветленых раёнах
вузкіх

накласці прафілактыку
на стаптаныя падэшвы
сямейнага ладу
на твае танцы
на чужых вяселлях-памінках
на тваё выкраданне

нявесты-еўропы
і мроі ў забыцці
пра сваю
непаўторную ў сваім родзе

застаецца
толькі звязаць горла
змеям-эскулапам
што трымаюць стапу
без хістанняў
і пакласці разам
сведкаў твайго
сталення
левы і правы
няхай левы заўсёды
вёў у пекла
а правы быў занадта
сціплы каб нешта даводзіць
цуд ставіць іх разам

у спавядальнай цемры
з-пад мацерчатай заслоны
там дзе твой святы айцец
не ведае ойча наш
і паліць адну за адной
у будцы без вокнаў
за нас

***

масты — гэта рэбры адносін
цывілізацый
мой ліст да цябе —
маё рабро

якое я перакідваю са сваёй мовы
да тваёй мовы
ад таго што ведаю дрэнна
да таго чаго амаль не ведаю

але рэбры крышацца
кіламетрамі нашага
вымучанага маўчання
і сыплюцца ў мора —
слёзы адносін
цывілізацый

і там на самым дне
аблепленыя малюскамі
іржавеюць
чакаюць на свайго Кусто
чакаюць
пакуль прыліў не кіне
іх на бераг
і абарыгены
не складуць з іх
яскравыя каралі
каб прадаць
бо гандаль —
соль ад слёз адносін
цывілізацый

ты надзень
каралі
з майго ліста —
цывілізацыі
жадаюць
адносін

***

мне сказалі што вершы
трэба пісаць з надрывам

так нібы сэрца вырваў з грудзей
і паклаў перад ёй яшчэ да таго
як падняліся вы па лесвіцы
зайшлі ў пакой і распрануліся
а яна пасміхаецца і пачынае яго таптаць
топча і топча
пэцкае ногі і думае
што праз некалькі год
з крыві будзе добры кагор
потым знянацку сыходзіць
а з донарскага органа
разгортвае крылы
свае журавель
і ляціць у пошуках новага сэрца

мне казалі вось так пішуцца вершы

а я чуў што верш
гэта цягнік на які насаджваеш метафары
як саставы састаў за саставам састаў за саставам
і вось верш ужо такі доўгі і магутны
ён аж ірвецца ў бой
толькі яго не прапусцяць на мяжы
бо ў саставах небяспечнае рэчыва
для якога людзі вучацца ўдыхаць
вушамі і затрымліваць яго ў галаве
для найбольшага прыходу
заплюшчыўшы нос рот і нават вочы
і цягнік твой начынены рэчывам

і з месца магчыма не сыдзе
бо яго рухавік — чытач
найгоршы сярод памежнікаў
таму цягнік рыпіць ля перона
новымі саставамі
толькі не дае спаць
сабакам
у прыватным сектары

я чуў што верш менавіта такі

## *Політична свідомість*

як стає тяжко
чи треба вирішити негайне питання
я не іду до церкви
я іду до кулінарії

роздруковую наприклад
спис кандидатів в міськраду
(доречи кандидати люблять коли їх друкують
друкуймо кандидатів!)
і сідаю собі за стіл
беру біляш ні в якому разі не чебурек
бо чебуреки то національна ворожнеча
а біляш нормально
в одного друга навіть пес був Біляш
отож беру спис кандидатів біляш и сідаю вивчати

номер один
заввідділом менструальної психотерапії
жінка літ сорок п’ять
молодець дітей вигодувала

побачила стелю над головою
та вирішила вийти в широкий степ
де як сів то вже сиди

але на неї біляш вже капнув тому не дам їй галку
(доречи не давайте галок кандидатам вони їх люблять але не треба, не балуйте)

під номером два
чувак із восьмого стройтресту
я добре його пам’ятаю
ми грали разом в футбол як були малі
нормальний був хлопець тільки життя йому ноги переламало
тобто ми
бо на всіх кривих заборів ще не побудували
а гола в пусті ворота забивати треба

тому галку йому не дам

під номером три в мене закінчився біляш
але прийшли друзі і дали мені пива
і треті кандидат був прочитаний вголос
чоловік тридцять п’ять років чорне волосся білі помисли
закінчив пєдинститут
пауза
хлопці, то ж він приходив до нас у школу
і вчив як треба натягувати гандона на огірки
дурний чи що думали ми але ввічливо не перебивали

згідно хитаємо головами
галку йому не даємо
хоча він може якраз з тих самих

хтось проливає пиво на кандидата номер чотири
встиг прочитати тільки що то пенсіонерка

тоді я кажу
хлопці ходімо до хати обміркуймо можливість
встромити цю галку якому кандидату
особисто я за пенсіонерку
ну скільки їй там залишилось
а нам якраз пару років перекантуватись
а там дивишся і буде вже по хєру

***

стану і нічога не буду рабіць

дачакаюся пакуль усе падумаюць
што гэта канец верша і тады
пачну

слова яно  такое
сёння з адным заўтра з іншым
і ніхто не можа быць спакойны
нібы поруч маленькі цыган клянчыць
ці сядзіш у аўтобусе
толькі і глядзіш каму месца саступіць
лепей і не сядаць
скажы гэта дэпутату
вось а калі дэпутат твой
бацька? дзе тое слова?

без слова прасцей
са словам няёмка
нібы на адно месца
прадалі два білеты
як на памінках ежа
не лезе ў рот
а табе кажуць

што гэта традыцыя
трэба аддаць даніну
бярэш відэлец у руку
адчуванне такое
нібы лёг разам
з усімі сваімі былымі
ў адзін ложак
з дазволу жонкі
і трэба казаць тост

таму я стану і не буду нічога рабіць

дачакаюся пакуль усе падумаюць
што гэта канец верша
пакуль уварвецца кдб
і скажа што я шпіён
у гандлёвым цэнтры
няёмкая сітуацыя
я напраўду разведваў
колькі каштуюць рэчы
але парырую
маю сведкаў
стаяў нічога не рабіў
а яны мне
слухаў? слухаў
глядзеў? глядзеў
відаць
хутка пачнеш гаварыць?
магчыма

слова яно такое
непадкантрольнае
недакранальнае
і кожнага разу
міма

# *Чарлз کослі*

*(1917—2003)*

## *Лорд Лаўлэйс*

З вайны вярнуўся лорд Лаўлэйс —
Увесь у шнарах вой.
І сонца зледзянелы шчыт
Вісеў над галавой.

Зламаўся меч, сатлеў штандар,
Ды быў нязломны муж,
І плашч, скрываўлены ў баях,
Хаваў яго ад сцюж.

Змяніўся ён, стаміўся ён,
Не сумаваў, аднак,
А штосьці салоўкам напяваў
І выступаў, як грак.

«Чакае любая Элен —
Прыспешу я хаду
І з ёй у замку радавым
Я зноў спакой знайду.

І верны мой слуга Жэан
Падасць нам хлеб з вінам,

З паходняю праводзіць нас
Да ложка перад сном».

Аднак, прыехаўшы дамоў,
Руіны ён знайшоў,
Засыпаў старажытны мур
Былы смярдзючы роў.

І лорда не сустрэў ніхто
Ля выбітых варот.
Наўкола попелам чарнеў
Спустошаны феод.

Блукаў ён доўга між руін,
А потым уздыхнуў
І ціха паскакаў назад,
На новую вайну.

Не знаў ён літасці з тых пор,
Нябёсам слаў праклён
Любы герой і дэзерцір,
Калі з'яўляўся ён.

Праўдзівы гэты мой расказ,
Я вас не ўвёў у зман,
Бо жонку зваць маю Элен
І зваць мяне Жэан.

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

# *Роберт Крылі*

*(1926—2005)*

## ***Ведаю аднаго чалавека***

Сказаў я неяк майму
сябру, бо я ўвесь
час гавару, Джон, я

сказаў, хоць ён ніякі
не Джон, цямрэча а-
кружае нас, як

нам змагацца з
ёй, ці трэба, чаму б не
купіць нейкае здаравеннае аўто,

з'ехаць, ён сказаў,
богам прашу, глядзі ты,
куды ідзеш.

## ***Несумленныя паштальёны***

Яны збіраюць усё, што я напісаў,
а пасля спальваюць.
Я бачу полымя і ўсё такое.
Але не пераймаюся і ўсё такое.

Яны паляць усё, што я маю, то бок тую дробязь,
што я маю. Я не пераймаюся і ўсё такое.

Бо найвышэйшы верш, адрасаваны
пустэчы — на гэта неабходная

смеласць. Гэта нешта
зусім іншае.

## ***Мова***

Адшукай *Я*
*кахаю цябе* не-
дзе між

зубоў і вачэй,
кусай, толькі
глядзі не

зрабі балюча,
ты
хочаш так

моцна так
мала. Словы
кажуць усё,

*Я*
*кахаю цябе*
ізноў,

для чаго ж
тады існуе
пустэча? Каб

яе запаўняць.
Я чуў столькі
словаў, словаў,

поўных балючых
дзірак. Мова —
гэта рот.

*Пераклаў з ангельскай Андрэй Вылінскі*

# *Баляслаў Лесьмян*

*(1877—1937)*

***

Палаюць грудзі, агнеюць вусны,
Не спяцца ночы і спяцца ранкі!
Дык будзь жа слаўны і будзь распусны,
Усмех адданай маёй каханкі!

У сне не чуе, як лашчу рукі,
Ды плечы побач уздрыгнуць трошку…
Дары мне шчасце, дары мне мукі,
Сон, што прысніўся клубам у ложку.

## *У сне*

Ты ў сне чужая. Даль без тла,
Ўспых вечнасці бліскучы.
Ляцім мы разам. Мгла і мгла!
Цямрэча, Бог і кручы.

Ты ў ноч і мглу вядзеш мяне,
Палётам разагрэта,
І шэпчаш: «Мы з табой — у сне!
Не забывай пра гэта…»

Не забываю. Мы імчым
Да невядомых высяў.
З табой так цяжка ў сне маім!
О, ява, адгукніся!

***

Змрок. У доме больш нікога.
І не прыйдзе дапамога.
Снег сцяжыну зацярусіў,
Жаль згубіўся ў завірусе.

Трэба ў гэты снег паверыць,
На сябе яго прымераць —
Гэтым зацяніцца ценем,
Гэтым занямець зняменнем.

*Пераклала з польскай Ганна Янкута*

# *Эндру Лэнг*

*(1844—1912)*

## ***Балада пра цяжкія рыфмы***

Мне з вершамі — адны пакуты,
Бо рыфмы блытаюць хады.
Ад слова «снежань» штомінуты
Мне сэрца скоўваюць ільды.
Дарэчы, «сэрца»: ад бяды
Хоць «скерца» — нейкі паратунак,
Ды ёсць нагода для нуды:
Дзе рыфму ўзяць на «пацалунак»?

Я словам «горад» быццам скуты,
З ім б'юся доўгія гады,
Але хоць выпі ты цыкуты,
Не ўнікнеш гэтае брыды!
За слова «водар» я заўжды
Гатовы нават на рабунак
І даліваю ў верш вады...
Дзе рыфму ўзяць на «пацалунак»?

Сціскаюць словы, быццам спруты...
«Лятунак»! А далей куды?
«Ласунак», «трунак» — лёс мой люты:
Не знойдзеш рыфм без барады!

Круціўся я на ўсе лады
І «струны» даскланяў да «струнак».
Так і памру я малады:
Дзе рыфму ўзяць на «пацалунак»?

Хай будзе гэты стогн пачуты,
О Фэб, спашлі нам падарунак,
І раскажы — здымі з нас путы, —
Дзе рыфму ўзяць на «пацалунак».

*Пераклала з ангельскай Ганна Янкута*

## *Владлена Малащенко*

***

скажите, что всё, что сейчас происходит, —
это магнитные бури?!
и кто эта дрянь, что ногтем скребёт по душе?
я жаждала вечно быть непосредственной дурой,
теперь вот схожу с ума в убогом своём шалаше.
ведь первый год — он трудный самый,
но странно, что третий уже пошёл,
а я всё так же пачкаю руки и маме
передаю приветы стихами. душой
мне вечно двенадцать, двенадцать и половина.
мне так же не будет хватать того, что уже есть.
и если слова поделить на слова словами —
обидно,
что кто-то добился чего-то, а ты всё там же,
а ты всё ещё здесь.
и кажется, два всего дня, а душу продала дьяволу
и где-то кипишь на десятом кругу в котле.
и вся эта грязь, вся эта грязная заболоть
пассируется, гниёт и тухнет в адской смоле.
не нужно — утешу сама себя крепким бокалом прошлого,
сгожусь
ещё
на один
запал.
я знала всегда, что дурой быть очень сложно,
я знала всегда то, чего кто-то не знал.

***

сегодня 1ое марта
2013ого года.
погода
лётная.
расскажите мне, птицы, о чём врёт она,
эта весна, ставящая меня, как самое бесполезное,
на карту.
эти три месяца пройдут болезненно
и с всякими там наивными надеждами.
распускающиеся почки обезвреживают
трезвый ход мыслей...
радужными переливами киснет
бензин
под колёсами...
как много ещё будет этих зим
впереди
как мало уже будет вёсен.

***

и я, наверно, скоро с ума сойду, мама,
не задавай никаких вопросов.
каждый вечер хожу пьяная.
сигареты всё, папиросы.
а он даже не мальчик с картинки,
одевается как-то посредственно,
между нами вроде бы дружба. хотя нет,
между нами детство.
точно знаю, что он хороший
и как с ним безобразно уютно.
я без прошлого — он с прошлым.
сутки вместе. не вместе сутки.
и я уже не в ладах с собой,

и я уже не помню ни дня, ни месяца,
и я снова уже не дружу с головой,
ограждаю себя, чтобы где-то с ним снова не встретиться.
только он всё вдоль коридора, тащит везде за собой,
и я уже без раздумий, как правило:
следом несу мантию — о, король!
и зачем ты, мама, меня здесь одну погибать оставила?
и я скоро от этой немой безысходности
съем полсердца себе и запью молодой кровью,
навсегда все контракты порву с королевской гордостью
и волчонком седым из окна на луну завою.
напои меня, мама, горячим и крепким глинтвейном,
расскажи, что не просто так мы кого-то любим.
я теперь, мама, только тебе верю,
а не этим пришедшим/ушедшим из жизни моей людям.
и я, снова забыв себя на коридорном мраморном
подоконнике,
запиваю чаем горечь от сигареты
и иду, воспроизводя в голове хроники:
первый день, день второй, день третий.

***

помнишь, нам было по восемнадцать?
пальцы, шагавшие по стеклу...
цедили виски, падали на снегу.
тогда мы умели пить и влюбляться.

помнишь, мы жменями ели вишню?
ты читал бродского с полным ртом.
и между нами не было лишнего —
лишние плавали за борт***о***м.

помнишь, ты как-то сказал про дом
где-то в чилийских высоких андах?
и мы мечтали, что купим и вправду
собственный рай с огромным окном.

помнишь качели в детском саду?
и как гонял нас седой охранник!
вслед нам кричал нецензурной бранью.
может быть, он и накликал беду?

всё убежало, ушло навсегда.
меня окружают многоэтажки
и эти бегущие вдаль облака,
что могли, но не стали нашими.

***

Красное сухое,
возьми меня бухого
и накажи
за все эти нарекания на этажи,
потолки и стены.
Занавес. Новая мизансцена.

Весна, понедельник, чинук,
неожиданный стук
в окно.
Вот оно,
слышишь, вот оно.

Ну, хоть ты, мой паршивый Иисус, меня накажи.
...скальпель, зажим.
Отключат от аппарата
уже завтра.
А пока ещё не сдавайся, дыши.

# *Анна Мананкова*

***

Маленький Веймар живет в голове у Гёте,
В маленьком Веймаре — маленький юный Вертер,
В сердце у Вертера — страсть к невозможной Лотте.
Лотта — нигде и поблизости, Лотта — ветер.

Вот потому герой и заплутал в романе,
В тропах нарраций, портретно-пейзажных далях.
Силясь пробраться к Лотте сквозь бидермайер,
Вертер строчит стихи, ищет ее в деталях:

Лента реки — лента ее подвязки,
Складки озерных волн — складки на платье Лотты,
Краски зари — щек ее юных краски,
Грозы — огненный взгляд (ну и, конечно, Клопшток).

Кружево воздуха, кружево на манжетах
И кружевная листва на старых деревьях парка —
Всё это Вертер опишет в своих сонетах…
Если у Гёте хватит слов и свечных огарков.

***

осень похожа на осень на осень цвета лимона
на чай с ароматом солнца на старый сундук из липы

липа похожа на вязы на грабы дубы и клены
а иногда на правду на правду в глазах эдипа

правда похожа на кривду известия и совбелку
на каплю вина в бутылке или на каплю рома
ром похож на цыгана на рим и на перестрелку
пиратов чьи пушки ночью звучат как раскаты грома

гром похож на рычанье на рыбу в прудах гертруды
на польку трик-трак и польку бранящую государство
похожее на кораблик (как нам напомнят зануды)
кораблик который топят интриги вражда коварство

коварство вместе с любовью похоже на мелодраму
где все в конце умирают даже зрители в зале
а зал похож на пустыню с бессмысленной панорамой
на поле в котором пасется бык похожий на алеф

алеф похож на айн который похож на цади
цади похож на маленькую улитку
улитка похожа на старость на фирса в вишневом саде
который врастает в дом и прячется за калиткой

калитка похожа на клетку клетка похожа на кладку
кладка похожа на кадку кадка похожа на кафку
кафка похож на большую тотальную неполадку
похожую на палатку закладку латку и лавку

лавка похожа на стол стол похож на лягушку
лягушка похожа на шар шары похожи на розы
розы похожи на птиц птицы похожи на плюшки
Всё похоже на всё. Овидий. Метаморфозы.

***

*Нет, я вам доложу, утрата,*
*Завал, непруха*
*Из вас творят аристократа*
*Хотя бы духа.*

И.Б.

*Видеть друга в гробу — к скорым*
*вестям о его успехах*

Из сонника

Непруха — это когда огромный шальной отряд
Злых режиссеров кричит: «Твой выход! На сцену, гад!»
А ты бы и рад на сцену, но что-то не помнишь слов
И в целом к публичной известности не готов.

Это когда на кого-то смотришь при свете одной свечи
И вроде бы помнишь: любуйся, — сказано, — и молчи,
Но ты не молчишь, и скрещением рук (еще хорошо — не ног)
Жизнь дает тебе в лоб, чтобы ты не забыл урок.

Это когда исторический очерк открыт главе на второй,
А ты уснул и во сне вступил в беспощадный бой,
Практически сверг царя, но проснулся от стука в дверь —
с царем во главе правительства, без царя в голове.

Это когда до зари ты вышел искать судьбу,
А судьба спала и видала тебя в гробу.

## Бертрам и Ночь

Цветы, мотыльки и обрывки снов,
Дневные клочки стиха
Ждут ночи, чтоб танец начать. А Ночь
Ждет юного пастуха.

Селенья, озера и стаи птиц
Готовы стать в хоровод,
Но Песня на ветке одна грустит —
Никто ее не поет.

Кто знает, скольким цветным мирам
Родиться здесь суждено.
А Ночь не наступит, пока Бертрам
Не распахнет окно.

И месяц тогда начинает петь,
И светится всё вокруг,
Скрывается страх, отступает смерть —
Бертрам выходит на луг.

Срывает с  густой тишины печать,
Цезуры швыряет прочь.
Минута — и вот они зазвучат,
Две скрипки — Бертрам и Ночь.

При первом же вдохе забьется ритм:
Вот долгий, вот краткий слог.
Пиррихий, пара спондеев — и
Прольются потоки слов.

У Ночи, как только в двух-трех стихах
Начнет прорастать мотив,
Фиалки распустятся на губах,
На пальцах и на груди.

Бертрам попробует ассонанс,
Почувствует привкус «а»,
Черешни периодов, вишни фраз
Ночь вложит в его уста.

Над ними закружит инверсий рой,
Запляшет парад планет.
Бертрам на заре унесет с собой
Застрявший в кудрях сонет.

Сосед, посмотрев на него в окно
Вздохнет в простоте своей:
«Хороший и честный он малый, но
Опять подцепил хорей».

## *Учебник иврита*

Наш беспокойный мир был создан из двадцати
Двух элементов и их бесчисленных комбинаций.
Искусство изобретать разные сочетанья
Крайне важно уже при сочинении песен,
Не говоря о таком серьезном и сложном деле,
Как сотворенье Вселенной.
Мой мир пока невелик:
В нем живет небольшое семейство и пара глупых японцев.
В доме на улице Дизенгофа
Мири, Гиля, Давид, Алан, Ривка и Рути
Пьют молоко и воду, едят мацу.
(Мир еще не содержит других продуктов)
Говорят о делах, ходят и пишут письма
(Правда, неясно кому, потому что читать они
Пока не умеют). Считают в пределах десятка.
И то предметы только мужского рода.
Не спят и не видят снов, не зажигают свечей,
Поскольку у них никогда не бывает ночи.
Работают даром. Такое явление, как
Зарплата, пока неизвестно. Парадоксально, но
Такое, как коммунизм, пока неизвестно тоже.

Я бы приехала к ним, но городов и стран
Просто не существует — мне неоткуда приехать.
Да и потом — к чему? Что я могу сказать?
«Алан, я рада вас видеть, я так скучала,
У вас спокойно и тихо, как в первой главе Берешит,
А мир вокруг удивителен и безумен,
Законы Ньютона, как и законы Эйнштейна,
Больше не действуют ни при какой погоде,
Поэты пишут отчеты о будущих катастрофах,
Астрологи судят по звездам о курсе евро,
Один мой знакомый финансовый аналитик
Пророчит паденье гигантского астероида
И дома Ашеров. Мир невозможен, Алан».
Но все, что можно сказать, вылилось бы в: «Привет,
Алан! Что слышно дома? Какие вести?
Я иду на работу. А ты откуда?
У меня все нормально. Привет Давиду».
Вот и всё. И то он бы тут же забыл.
Ведь они не имеют прошлого. Грядущего, впрочем, тоже.
Один настоящий день, длящийся бесконечно
В мире, где нет светил, но есть магазин и школа.
Гиля, Мири, Давид, Алан, Ривка и Рути
Живут под навесом своей голубой обложки.
И пусть они не хватают ни орденов, ни звезд,
Не знают абстрактных понятий, не создают теорий,
Но умеют любить и играть на виолончели
В доме на улице Дизенгофа.

…пока что они бессмертны.

# *Фрыдрых Ніцшэ*

*(1844—1900)*

## *Нямецкі лістапад*

Вось гэта восень: разаб’е табе сэрца!
Адлятай! Адлятай!
Сонца крадзецца ўгору,
Падымаецца, падымаецца
І адпачывае на кожным кроку.

Якім кволым быў свет!
На ледзь нацягнутых струнах вецер
Грае сваю песню.
Надзея збегла —
Ён плача па ёй.

Вось гэта восень: разаб’е табе сэрца.
Адлятай! Адлятай!
О дрэва плод,
Ты дрыжыш, упадзеш?
Якую таямніцу табе даверыла
Ноч,
Ад якой твае шчокі чырвоныя
Заінелі халоднымі дрыжыкамі?

Маўчыш, не адказваеш?
Чый гэта гоман?

Вось гэта восень: разаб'е табе сэрца.
Адлятай! Адлятай!
Я непрыгожая, —
Кажа астра,
— Але люблю людзей
І суцяшаю іх —
Самы час убачыць кветкі,
Нахіліцца да мяне
Ах! і зламаць —
Тады ў вачах зіхціць
Успамін,
Прыгажэйшы за мяне ўспамін —
Я бачу, бачу, — і так паміраю.

Вось гэта восень: разаб'е табе сэрца!
Адлятай! Адлятай!

## *Венецыя*

Я на мосце стаяў,
малады, у цёмную ноч.
Здалёк чуўся спеў:
залатыя кроплі
ліліся па хвалях прэч.
Гандолы, паходні, музыка
ап'янела ў цемру плылі.

Мая душа, гралі струны,
звінелі, таемна кранутыя,
трымцела ад асалоды
ціхая песня гандолаў.
— Ці нехта чуе?..

*Пераклала з нямецкай Наталля Рудак*

## *Тацяна Нядбай*

***

прачынацца і
выкарчоўваць сэрца

свайго бліжняга
ненавідзець лішняга
як костачкі з вішняў
вымаць пальцамі

дзёрзкімі словамі
цягучымі смоламі
ляжаць голымі
выпадковымі пастаяльцамі

не джэкпотаў прага
не букмекерская смага
ні жар-птушкі, ні магаў
ні цудаў хачу чароўных-наварожаных

ад жыцця — жыцця
гаючага пачуцця
а нібы няўцям
як яшчэ бывае як можам мы

прачынацца ў палоне
мяккіх далоняў
пахкіх півоняў
водары яблыкаў з уласнага саду

як ядвабных пялёсткаў
пацалункаў порсткіх
і каб дажджы касыя хлёсткія
асеннія а мы ў цеплыню ложка падаем

каб свяціў маяк
каб было як
расціснуць кулак
і расказваць сны прачнуўшыся на світанні

каб штарміла мора
й адганяла ворагаў
а не нас у мораку
смугой ледзяной вітала

***

за сваё жыццё
тры жыцці ён ужо пражыў,
хоць ні дома, ні дрэва, ні сына няма,
але
яго так закручвалі
шалёныя віражы —
ён заходзіў у душ, а вынырваў у Па-дэ-Кале,

уначы ён піў — ён намагаўся заснуць,
але хтосьці знадворку па шыбах вадзіў ножыкам,
ён заплюшчваў вочы, ён не хацеў на вайну,
а вайна прыйшла і лягла да яго ў ложак,

Менск, Варшава і Вільня, Парыж, Рыга —
ён збіраў гарады камянямі ва ўласным сэрцы,
ён не выйграў вайны, хоць трафеяў поўныя прыгаршчы,
і калі адкладаў зброю й здымаў берцы,

ён не мог забыць, як яе валасы пахнуць,
як яе ямачкі ледзьве краналі ўсмешку,
ён ішоў наперад, нібы апускаўся ў багну,
і набрыньваў адчаем з нікацінам уперамешку,

з выпадковай кавярні, поўнай тлуму і кічу,
ён глядзеў на імжу і лістапад запознены,
а ў адбітках на шкле бачыў яе аблічча,
замаўляў каву і дапіваў восень

***

так пахла ліпамі з усіх гарадскіх двароў,
масты, як коткі, свае выгіналі спіны,
прымружвалі вочы салодка пад ліхтароў
паглядамі дзіўнымі,

і мы кахаліся на даху, як галубы,
мы ўсміхаліся пілотам аэрапланаў,
бясстрашным вікінгам ты ўвайшоў сюды,
каханы,

і столькі радасці прыносіў твой кожны рух,
хавала ад шчасця слёзы ў тваіх далонях
і ў садкіх смаках вуснаў, цела, рук
і ўлоння,

і мы засыналі адным на дваіх сном,
на адной хвалі ўлюбёнай FM з джэм-сэйшнамі,
так пахне астрамі цяпер за маім акном,
а табой ад мяне пахне
па-ранейшаму

***

скарджуся — не адыходжу ад касы —
кепскі трып: у той час, калі
просяць усіх зашпіліць пасы,
мне часавы пас карціць зашпіліць,

а час анічога не вырашае,
месяц мінае, як дзень і як год,
сонца сядае недзе ў Варшаве,
а думкі, як цені, паўзуць на Ўсход,

час бяжыць шэрай маўклівай зграяй,
скручвае ў нітку, бы калаўрот,
рэшатам з памяці сны выбірае
і, як свінец, залівае ў рот,

час агаляе нервы й вабноты,
і ў прыцемках глеістых і густых
я задыхаюся ад адзіноты,
а свет не памёр, але ўжо астыў,

фініш чарговы, стаю ля рэі
і дапіваю з тэрмаса грог,
я не сталею, але старэю,
мяне ванітуе ад гэтых дарог,

і даўкіх стратаў, і горкіх трункаў,
мне б адно дачакацца начы,
каб на адлегласці пацалунка
зноў засынаць на тваім плячы

***

агульны вагон кругасветнага цягніка,
пашанцавала — дэмбель сёння не едзе.

большасць — жанчыны з гадаванцамі на руках,
гушкаюць іх і ад сну ратуюцца ледзьве.

лета, але прахалода льне да пляча,
агні начных краявідаў не саграваюць.
ляжу на драўлянай лаўцы, мяне атача-
юць галасы, разгойдваючыся, з краю

суседняй лаўкі долу звісае плед —
не тое, што я, — пастаянныя пасажыры.
ляжу на лаўцы, а ў галаве — след
герояў Камю ў каланіяльным Алжыры.

недзе побач гавораць пра даўжыню гуркоў —
мая мама, пэўна, параіла б ім насенне,
пагаварыла б пра зёлкі, і як ачышчаецца кроў
народнымі сродкамі, і што азначаюць сненні.

далей абмяркоўваюць батарэі і печнікоў —
тата сказаў бы, што лепш для цеплаізаляцыі,
пасля — пра рыбу, вуды і якасць кручкоў,
а я ляжу, заклапочаная праблемамі нацыі.

я прыеду да іх, абдыму, падміргну кат**у**,
на адной канапе паслухаем тэлевізар.
яны рты адкрываюць, як рыбы, а я тут
так намала, што нават не разбіраю валізаў.

***

Рызыка, а не рыза — мая другая натура
Візавая свабода забірае ў палон
А мне — заставацца з племем цыганаў і трубадураў
І ў бойцы з клаўстрафобіяй усё ставіць на кон

Я бяздомным сабакам злізваю хмары з лужаў
Смела бяру цукеркі ў незнаёмых мужчын
І апранаю шкарпэткі, калі за акном сцюжа
І не вылажу з ложка без дастатковых прычын

Марнае, а не мары свярбіць і свідруе болем
Не спакушае бляск і багацце вітрын
Рай — гэта не там, дзе усяго даволі
Рай — гэта калі цішыня ўнутры

# *Наталля Рак*

## ***мара***

Мне Місісіпі па костачку,
там плёскаецца мая мара,
глытаючы прыглушаныя крыкі прыгнечаных.
Маю мару здушылі бізуном для біцця рабоў,
пахавалі недзе ў багне, непадалёк ад Батан-Ружа,
каб пасля ўваскрэсіць магічнымі дзеяннямі
культу вуду.
Яе ўваскрэсілі, але, на жаль, чарвякі з’елі яе цела —
яна зрабілася нежаданай, і яе зноўку ўтапілі —
у водах Місісіпі.
Мне Місісіпі па калена: я шукаю сваю мару.

## ***мой апошні кадзіш па табе***

Ты так доўга памірала,
што здавалася — раней памёр я.
твая агонія была падобная да завіткоў спіралі
бялку, і з кожным новым
чакаў — канец, але ты яшчэ дыхала,
хапаючы паветра.
я маліўся, кляўся, выменьваў усё, што належала
мне за твой апошні ўздых,

і калі ты памерла,
растала, знікла,
ты стала ўсім —
поўняю, зоркай і ноччу,
ты стала табула раса —
пустэчай, бясконцасцю і той самай невыноснай лёгкасцю
майго цяпер бессэнсоўнага быцця.
і дакрычацца б да Млечнага Шляху:
— Авэ, Авэ, — я крычу лёсу сваё «Авэ»,
але не —
і гэта быў твой апошні фак, твой пратэст,
апошняя іголка пад маем пазногцем,
увагнаная ў нерв шпілька,
як ты цяпер, напэўна, рагочаш,
а мне б выць і шкадаваць, што не зашморгнуў раней
нітку на тваёй шыі — ты стала найлепшай часткай мяне,
хаваешся ў закутках душы,
у крывяных цельцах,
у кожным руху пальцаў — …
ты ўва мне няроўным рытмам дыхаеш,
пазбаўляючы фізіку свайго мета-
... і я ахрып, чытаючы нараспеў
па цябе свой маўклівы кадзіш.

## *Да І.Х.*

*Февраль, достать чернил*
*и плакать,*
*Писать о феврале навзрыд…*
Б. Пастернак

Да лютага яшчэ паўгода —
схавайма бутлю дыхтоўна-духмянага
чарніла,

будзьма рыфмаваць словы ў пошуках сэнсу,
бавячыся ў постмадэрнізм
і сплятаючы сетку банальнага вершыка.
У перапынках джаз —
гучней, гучней, уключыце гучней
Дзюка Элінгтана! —
я слухаю джаз і веру,
што мне сапраўды
вельмі дрэнна.
У абрыўках імправізацый я губляю дакучлівае
жаданне галасіць.
Прызнаю сваю віну — я подлы пісака,
але ж я буду
слухаць сёння джаз.
І толькі ў пачатку лютага,
калі стане невыносна сумна,
адкрыю бутлю чырвонага віна,
каб нешта напісаць.
Напэўна, можа быць, хутчэй за ўсё — для цябе.

## *Да Ф. Гарсіі Лоркі і Л. Коэна*

І вось я адна з дзевяці
стаю насупраць цябе;
над намі крышталь,
люстэркі і венскае барока,
хвілінка — і на гэтай выспе вясны
пасярод гурбаў жоўтага лісця і памерлых дрэваў
будуць чуцца стогны птушыных спеваў.
Мы будзем танчыць гэты вальс,
не зазіраючы яму ў вочы,
адхіляючыся ад яго бясконцага хваста,
што вынырвае з пены музыкі
Штраўса.

Вось разварот, яшчэ адно па —
мы зноўку выратаваныя
ад смуроднага дыхання нашага вальсу,
у якім Вакх абдымае Смерць.
Дзесьці там удалечыні, каля бара,
спадары крытыкуюць звычкі гішпанцаў,
чэрпаючы віно з чана, не ведаючы, што наперадзе іх
чакае, чакае, чакае Смерць.
Але і мы ненадоўга выратаваныя,
хутка нас захопіць у палон пачвара-вальс,
увянчаны амялой, апрануты ў кіпарыс, ён пахавае нас
пад гукі вясновых галасоў.

***

Агмень, гары, кіпі, вада:
Языкі мышэй, крылы восаў,
Каровіны вушы, пёры кнігаўкі,
Вужыны хвост, вочы жабы й крата.
Сёння на пусташы
Пачынаецца вядзьмарства.

Гарыць агмень і кіпіць вада.
Крумкач крыкне тры разы,
І спадзе апошняя лістота:

Адзіная асіна голая, як кол.
Дубец з амялы падгоніць хмары,
І датчане, праглынуўшы стому,
Дарма будуць клікаць дапамогу.

Дым ідзе ад варыва — я бачу, што
Здзейснена забойства добрага караля.
Гары, агмень, кіпі, вада,

Драбок размарыну і тры ліста палыну…
Міне яшчэ тыдзень —
караля загорнуць у прасціну.

Дванаццаць udaраў у бубен,
Трынаццаць бляскаў месяца
ў крывавых плямах на тым нажы.
Падліць рачной вады —

Памрэ яшчэ адзін кароль.

Але бачу-бачу іншыя падзеі:
Скоты не маюць болей свабоды.
Іх скарылі англасаксонскія мячы —
Скотаў будуць біць і сячы.

Гары, агмень, кіпі, вада,
Сёння на пусташы клінок гісторыі
Патрабуе ў ахвяру ўсіх і ўся.

# *Антон Рудак*

## ***каляндарнае***

пакуль вы крычалі і плакалі мяккімі знакамі,
брыльянт майго таленту паступова рабіўся шматграннікам.
пачуццё маёй значнасці кармілі такімі прысмакамі,
якія нават не сніліся майму страўніку,

я клаў дамкрат на ўсякія вашыя правілы,
лаяўся, бацаў на аргане лявоніху,
а вы даравалі мне і дадараваліся —
я ўсвядоміў, нібыта я надта адораны,

я не змагаўся з злаякаснымі метастазамі
катэгарычнае рацыі, максімалізму
і непрыязні да цэлых групаў і класаў —
напрыклад, крытыкаў: гэтым — ніякае літасці.

і з чаго вы ўзялі, што мне самому прыемна,
прыдумалі пра натхненне і іншую ерась?
натхнення няма — турма як правобраз паэзіі:
сядзіш сабе і крэмзаеш, крэмзаеш, крэмзаеш.

тэхнічны прагрэс, з’яўленне мабільнай сувязі
ані не ўратуюць цябе ад уласнае дурасці.
жадаеш пабачыць сябе ў люстэрку мінулага?
націсні лічбы: адзін, дзевяць, тры.
задумайся.

## аўтапілот

скочыўшы без парашута праз адчыненыя дзверы
я лячу скрозь стратасферу пералічваючы страты
я ў нішто даўно не веру не люблю не спадзяюся
я ўсяго зрабіў багата акрамя таго што мусіў
толькі сам і вінаваты

хто не хоча скочыць долу са сваіх шматпавярховак
я лаўлю ўсіх вас на слове не паліце і не спіце
не вучыце новых моваў не пішыце на санскрыце
на іўрыце і трансліце пагатоў адначасова
укантакце і ў твітэр

уніз наперад галавою я збягаю па спіралі
балансуючы на краі танчу вычварныя танцы
дзе б мяне вы ні шукалі я знаходжуся на зломе
лепей нават не шукайце гэты свет мяне не зловіць
зрэшты ён і не збіраўся

пад крылом палае горад бомбы крыюць наваколле
таюць словы застаюцца толькі шкло бетон і камень
гэта ўсё роўнабакова мне пляваць што будзе потым
і дрыжачымі рукамі я запісваю размову
са сваім аўтапілотам

## аэрадромная

*Амелі Пулен, ты не росла у совку...*
Рэмінісцэнцыя з С. Жадана

у дзяцінстве я быў камуністам —
але, праўда, толькі часова.

зрэшты, кім я яшчэ мог вырасці
ў ваколіцах аэрапорта.
не ўяўляю, як не зарабіў сабе
падваення асобы:
баба казала, што ленін добры,
бацька даводзіў, што ён казёл.
абое нічым не падмацоўвалі.
я іх паслаў да чорта.

наш дом будавалі, вядома ж, палонныя немцы
(а можа, не немцы. і нават зусім не палонныя),
але на франтоне пакінулі
серп ды молат і год пабудовы.
адсюль у мяне любоў да рэтра-эстэтыкі
і таталітарнай сімволікі ўвогуле.

дзяцінства запомнілася херова:
адсутнасцю голаду і хваробаў,
парай даўно забытых сяброў,
першымі спробамі складання словаў
і парадаксальнай любоўю адначасова
да зорак і трактароў.

мы патроху сыходзілі вонкі з еўропы,
выводзячы стуль гарнізоны і танкі.
еўропа глядзела на нас скрозь чарнобыль
і запрашала завітваць выпадкам —
мы карысталіся з пажадання.
калі б не гуманітарная дапамога з германіі,
мы б тут даўно загнуліся нахер,
прычым і ў тэхнічным, і ў гуманітарным плане.

нам забывалі тлумачыць, хто нашыя ворагі,
мы патаналі ў палітыцы, каляфутболе ды алкаголі.

мы не жадаем нікому роляў, якія нам давялося выконваць.
нашы бацькі — ветэраны перабудовы, мы самі — апошнія,
хто шчэ хоць штосьці помніць.

як птушкі вандроўныя на раздарожжы,
мы колеры неба спрабуем на дотык,
клеім мадэлі з паперы жоўтых абгортак —
планеры і гелікоптэры,
і глядзім падазрона на кожнага,
хто нарадзіўся потым.

## *Фотакарткі*

Разглядаючы фоткі ў старых альбомах,
абліччы людзей, нібыта не вельмі
блізкіх і родных, а ўсё ж знаёмых,
трапляеш на тых, з кім сустрэнешся ў пекле:
хто быў партызанам ці гнаў самагонку,
сядзеў у турме і ва ўсіх у пячонках,
рабіў у школе ці самапомачы, словам —
хто мазаў свой лоб зялёнкай
кожнага ранку замест снядання чатыры гады
без права маўчання,
штодзённа смерць пасылаючы нахрэн —
чуеш, як адкрываюцца чакры?

Калі б ты мог, то спытаў бы ў гэтых —
якія, уласна, вы мелі мэты?
Такога адказу не маем мы самі — але яны б табе адказалі:
у кожным часе і ў кожным месцы адзінае,
што не губляе сэнсу —
рабіць памылкі без перапынку,
каб з гонарам потым глядзець са здымкаў.

Мінулае збольшага непрадказальна,
таму развітайцеся з тармазамі,
што будзе заўтра — не гэтак важна: вайна прайшла,
а далей не страшна.

Маўчаць непрызнаныя ветэраны, і ты, нібыта зачараваны,
шукаеш сябе на пажоўклых фотках,
гукаеш у цемру імёны мёртвых.

## *Дзень Перамогі*

Настальгія па неперажытым вяртаецца снамі,
пагонямі за шпіёнамі, уцёкамі з гета,
спаленымі мастамі і цягнікамі,
якія ідуць на захад апошнім летам,
апошняй нядзеляй, апошняй надзеяй марнай
на лепшае развіццё падзеяў і лёсаў —
свет звар'яцее, і ўсё-ткі аднойчы траўнем
вернецца ўсё, што ў верасні засталося.

Згорбленымі ветэранамі на парадах,
коркамі з іншамарак краінаў Восі,
сцёртымі контурамі старых фотакартак
вернецца ўвесну аднойчы трывожная восень —
тады мы з табою абавязкова запалім
і ўсіх прыгадаем, з кім разам спявалі на фронце
песні пра перамогу, любоў і вяртанне,
чыя вайна аказалася ўрэшце бясконцай.

## *1989*

Мне пашчасціла нарадзіцца ў гэтым заказніку,
узоры сацыялістычных культуры і побыту,

дзе раз-пораз сям-там на платах малявалі свастыку,
што назаўтра змянялася зоркай, сярпом і молатам.

Леваруч ляжалі палі — футбольнае й лётнае,
праваруч імчала чыгунка й знікала на захадзе.
Маё прыбыццё сюды абвясцілі двухкротна —
з дыспетчарскай вышкі і на сартавальнай станцыі.

І атлас пакуль стракацеў бялюткімі плямамі,
і ямы ў паветры няўцямна зеўралі з бездані,
і цэлы свет быў падзелены толькі шлагбаумамі,
апушчанымі над чыгуначнымі пераездамі,

і зоркі, сарваныя з неба аэрапланамі,
якія ішлі на ўзлёт у згусцелай цемрадзі,
ляцелі згары і падалі, нібы яблыкі,
і верылася, што ўсё ў нас яшчэ наперадзе.

## ***Прадвесне***

Промні ляжалі ў чырвоных галінах зарасцяў,
цені цягнуліся ледзь не да далягляду. Усе
дзеці сядзелі ўдома і рыхтаваліся
да заўтрашніх першых дыктовак. Маўчала радыё.

Вясна падступала да кальцавой, прымервалася
да вокнаў новабудоўляў і шэрых сталінак,
капала з дахаў, каты раўлі як здурнелыя,
усцяж па дварах цеплатрасы паўзлі праталінамі,

і ўсё намякала на тое, што здарыцца некалі,
лунала ў паветры, блукала трамвайнымі рэйкамі,
і снілася, і вымалёўвалася наперадзе —
няхай вы ўсе спачуваеце ёй і верыце,

аднак, не губляючы ўвагі сярод агаломшанасці,
яна так упарта адсочвала і замарочвалася,
змагалася, не пераймаючыся аналізам,
здаўна забывала ўсё тое, што вы баяліся.

## *Травень, Чэрвенка*

Помніцца, азнаёміўшыся з маёй творчасцю,
твой тата спытаўся, ці праўда, што я алкаголік.
Магчыма, я часам быў схільны да перабольшання,
адно што няшчырасцю не злоўжываў ніколі.

Тым вечарам мы ўладкаваліся ў шматпавярховіку,
знайшоўшы адкрыты балкон на апошнім паверсе,
палілі, пілі і штосьці наўкола фоткалі —
словам, лячыліся ад вясновай дэпрэсіі.

Адтуль адкрываўся цудоўны выгляд на ўскраіну,
дзе я нарадзіўся і ездзіў у школу тралейбусам,
пакуль не парваў з мінулым. Мой выбар быў правільны —
хаця б і таму, што ў выніку мы сустрэліся.

Мінала залева, і ў небе, надвое падзеленым,
плавалі на даляглядзе пунсовыя ветразі,
стаяла вада на пляскатых дахах панэльнікаў
і галубы сядзелі вакол на беразе.

І побач былі ўсе тыя, каго мы помнілі,
каго мы знаходзілі і незваротна страчвалі,
а ўсе, хто былі не з намі, цяпер настойвалі на адваротным —
і мы іх ласкава лічылі таксама нашымі.

Шэрагі ценяў мігцелі між нашымі душамі,
і мы іх лавілі з балкона ў полі над прорваю,
а ўнізе паблісквалі вокнамі цёмныя лужыны
і адлюстроўвалі шэрае неба над горадам.

## *Команда молодости нашей*

Як мы тады не вымерлі — да канца не цямім і самі.
Болей за ўсё мы нагадвалі зграю малпаў,
толькі нядаўна з пальмы:
кампанія імбецылаў з сарвана-прапаленымі галасамі,
нашыя пысы і адрасы таксама былі прапаленыя.

Непрахадныя пад'езды і неправетраныя памяшканні —
над кожным было рэальна павесіць
прынамсі дзве-тры сякеры:
раней ці пазней яны мелі сарвацца
і трэснуць па нашых карках,
хоць, зноў жа, мы да апошняга адмаўляліся ў гэта верыць.

Мы краталіся па дварах, ратавалі план, начавалі ў РАУСах,
каталіся на аўтазаках, фатаграфаваліся там на памяць,
нас ведалі ўсе сабакі і хто-ніхто з іх нават вітаўся,
мы прыдумлялі сабе біяграфіі і пасміхаліся ў камеру.

Персанажы такіх мемуараў ніколі ў сапраўднасці
не існавалі —
мы самі стваралі сябе адпаведна іх вобразу і падабенству,
пачынаючы ад ідэалаў і ўрэшце
сканчаючы колерам шалікаў,
колерам нашага неба, нашых вачэй, нашага сэрца.

## *Серабранка*

Дым вісеў вісеў над ракой, ён нагадваў туман і манку,
жабы плёхалі па чаратох паплавоў забалочаных.
Надыходзіла ноч. Мы вярталіся ў Серабранку,
ціха крочылі кромкаю веладарожнае ўзбочыны.

І наперадзе бегла чорная сабачэнцыя —
мы яе прыручылі, пакуль бухалі на Чэрвенцы,
напаілі джынджэрсам з рэдсам, назвалі Элвісам,
і цяпер ён імчыць у невараць, не адчэпіцца.

Ён маячыць у цемры і штосьці раз-пораз рохкае,
ён адзіны, хто ведае мэту гэтай вандроўкі,
ён вядзе нас па зорках, яшчэ ад самой Маякоўкі,
у святле ліхтароў, іхных промняў крывых і крохкіх.

І калі ён зусім раптоўна знікае ў бездані,
мы стаім агаломшаныя і галёкаем голасна,
клічам Элвіса. Урэшце ачомваемся ля пад’езда —
бач ты, суччын сын, давёў без усякага компаса.

І пакуль сябры ў двары гарэлкаю грэліся
і музло раўло з іхных соняў, самсунгаў, нокіяў,
мы з табою былі сам-насам, мой любы Элвісе,
анікому не роўныя, згубленыя, адзінокія.

І калі мы тырчэлі разам ад нашае музыкі,
што плыла дваром, біла ў шэры бетон панэльнікаў,
то сябры разумелі, што мы прысталі да берагу,
мы ступілі на сушу, адкрылі сваю амерыку.

Яны ганарыліся гэтым, яны ў нас верылі,
яны былі пэўныя, што іхны выбар правільны.

Гайдаліся на арэлях, нібы ачмурэлыя,
крычалі «гуд бай», пачыналі спяваць развітальную.

Яны не дапальвалі і, абмяняўшыся жартамі,
пакорліва рушылі сярод муроў па-над прорваю
тваёю камандаю, чорнай гвардыяй, вартаю,
чым меней заслужанаю, тым больш ганароваю.

# *Сара Тысдэйл*

*(1884—1933)*

## ***Сапфо***

Сыходзіць змрок, глыбокі, як вада,
На Лесбасе, аддаленым бясконца,
Між дрэваў храмы ў поўневым святле.
Схавалі прыцемкі маленькі твар,
Ды пакідае цемра літасціва
Цяжар салодкі цельца на грудзях.
І я — Сапфо? Я бегла праз імглу
Ўздоўж хваляў, што накатвалі на бераг,
Калі зямлі адхланне нёс прыліў?
І, бегучы, пакуль чарнела ноч,
Я падала ў знямозе на пясок
І трэслася ад ветрыку з-над мора?
Маўкліва галька марыць пра прыліў,
Які пякуча хвалямі цалуе.
Мая любоў — без міру, ноч — без сну.
Кранаю пену жарснаю рукой,
Каханне клічу, што лагодзіць мора,
Што робіць мора горкім, быццам смерць.
О Афрадыта, як спыню хвалу
Табе, па сіле роўнай толькі Богу,
То ад таго, што слодыч слоў маіх
Збыткоўная ў салодкім існаванні.
У сэрцы закаханым — цішыня,
Я боль спасцігла і здабыла мір,

Мой мір, Клеіда, у маёй душы.
Пяшчотней, чым кранаюць птушаняты,
Яна кранае вуснамі мой рот.
Ніколі больш у час, калі вясна
Запаліцца агнём у клейкім лісці,
Не буду я, самотная, збягаць
Ад радасці Алкеевых радкоў
І слёз, што заглушаюць спеў Эрыны.
Ніколі з песняй, што гучыць, як боль,
Пад небам бесклапотнае вясны
Трымценне й крык зняможанага сэрца
Не буду ад любові я хаваць.
І помню я, як спрабавала збегчы
Ад птушак, што спявалі пра любоў,
І, апусціўшы долу погляд свой,
Убачыла два цені закаханых,
І жарсць вясны ўзяла мяне ў палон.
Любоў, не ўратавацца ад цябе
І не стаіцца ў схованцы самотнай
Ці ў пустцы, дзе няма тваіх слядоў
І кветак, што з-пад ног тваіх растуць.
Ты розныя прымервала аблічча:
І танчыла імкліва між дзяўчат,
І чаравала ўсмешкаю Фаона,
Анактарыя зведала твой пал,
Керкілас быў табой апанаваны,
Але ніколі не давала ты
Любіць мне ўсёй душой маёй і целам —
І вось спакой, што ад мяне збягаў,
У сэрцы я надзейна замыкаю.
Любоў, маё жыццё — лірычны спеў,
Любоў, маё жыццё — твой лірны ўздых,
Я навучыла свет тваім пэанам —
Цяпер пяю адно для той, што спіць.

*Пераклала з англельскай Ганна Янкута*

# *Ехе́ Кім Ург*

## *Стаць бы дзеўчынкаю*

Стаць бы дзеўчынкаю,
сесці б на калені
    да Максіма Танка:
ён мне не вораг,
ён мне не сябра,
а
чую, што
глядзім мы
у адным кірунку.

Сталі на калені,
памаліліся Канфуцыю,
дармавым кватэрам,
пасадам і грантам.
Селі за вячэру,
падзяліліся:
хто стаў ворагам,
хто —
    сябрам.

Сяду на калені непрыкметна
да Максіма Танка;
вяртайцеся, Янкі,
«Янкі, go home!» —

Васіль, ты там
  недалёка, ты ім
  перадай.
Кастусе, як табе ў пекле,
сляпым і глухім?
Можа, так яно лепей:
ты хоць не бачыш,
хто мы цяпер,
што было заўтра,
як былі рэжуць
  па скуры
фашыстаў і акупантаў
свастыку
  ў тры колеры:
неба, крыві, Плашчаніцы,
«забойцы»,
«здраднікі»,
«ка́ты».

## *8:05*

смерць не хвалюе,
смерці не будзе,
смерць ужо тут
побач стаіць,
жывое дзяўчо
трымае цёплае лязо,
да шыі маёй прыціскае

я ведаю,
смерці не будзе,
павольна галаву нахіляю,
цягліцамі сталёва

stainless steel трымаю;
шыю зламаць?
шыю не скруціш —
бяжы, бо сёння
дзяўчо не памрэ

няблага здабытку:
нож без іржы,
чырвоная фарба,
хрыпата,
восем
нуль-пяць

## *Ужо колькі дзён кажу Паветру*

Ужо колькі дзён кажу Паветру:
— Паветра! мною нельга дыхаць!

Ужо колькі год я дыхаю табою,
але,
Паветра,
я не магу быць
узаемным!

Я магу дамовіцца з Полымем,
але й тады
апынуся толькі попелам,
застануся памяццю,

якою
нельга!
дыхаць…

І калі дамоўлюся з Хугайдаю
і перакулюся ветрам я,
усё адно —
я не змяшаюся крывёю
у паветраным шары з табою:
ветрам
надзімаюць
ветразь, —
я не магу быць
узаемным!

Я раздзьмухаю полымя
сусветнае вайны, —
каб табе было цяплей
і каб людзі часцей
уздымалі
галовы
уверх,
дзе сотні
кіламетраў цябе, —
бо без гэтага ты
не існуеш.

Я буду дзьмуць
на паветраны шар
з цёплым табою —
ты нават не ведаў,
куды
я магу задзьмуваць!

…

Калі скончыцца
апошняя вайна,

я дамоўлюся з Сонцам
і стану
ягоным гураганам,
каб мець моцы мне
паказаць табе
іншыя зоры,
новае Сонца
і тамтэйшых людзей.

Але і потым:
1) мною нельга
   будзе
   дыхаць,
2) і я не стану
   узаемным.

## *Ежы Фіцоўскі*

*(1924—2006)*

### *Хвалявака*

Крыся нешта ўсё малюе.
— Што за дзіўны звер! Сабака?
Гном? — пытаю я малую.
— Гэта, татка, Хвалявака!

— Ну, а дзе яго прыстанак?
— Пад карэннем мае хатку.
— Што з’ядае на сняданак?
— Тры суніцы і зярнятка.

— Можа, ён бы з’еў цукерак,
Калі хтосьці пачастуе?
— Лес — не шафа, не куфэрак,
Дзе знайсці цукерку тую?

— Хутка з крамкі мама прыйдзе,
Прынясе яму смятаны.
— Толькі ты яго не крыўдзі,
Бо ён вельмі ўсхваляваны!

— А калі яго я сушкай
Пачастую ці пячэннем?

— Дасць пачухаць ён за вушкам,
Піскне ад задавальнення.

— Што за мілая істота!
— Вельмі мілая, вядома:
Многіх вывеў ён з балота,
Сцежку паказаў да дому.

— Як падмануць небараку,
Ці пачне тады кусацца?
— Не, кудлаты Хвалявака
Проста будзе хвалявацца.

— А як прыйдзе халадэча
І настане час зімовы?
— Пойдзе ў іншы лес малеча,
Знойдзе там дамок часовы.

— А калі залева хлыне,
Будзе ў лесе, як у душы?
— Ён усё адразу кіне
І памые нос і вушы.

— А скажы, ці ён існуе,
Гэты Хвалявака мілы?
— Так! Цябе не падману я!
Я ж сама яго стварыла!

*Пераклала з польскай Ганна Янкута*

# *Акіта Фуджы*

*Акіта Фуджы нарадзіўся блізу Токіа ў 1939 годзе. Пасля сканчэння школы паступіў на філалагічны факультэт універсітэта Токіа і скончыў яго з адзнакаю (другім на курсе). Затым вывучаў мовы Мікранезіі. Вершы пачаў пісаць у сталым узросце (першая публікацыя — 1998 год). Выдаў тры зборнікі паэзіі: «Харакіры апоўначы» (2001), «Нашто японцы?» (2005) і «Карпаратыўны верлібр як сродак цімбілдзінгу» (2011). Шырокае прызнанне прыйшло да паэта пасля выдання другой кнігі. У Японіі спадар Фуджы настолькі знакаміты, што яго ўвесь час паказваюць па тэлебачанні як поп-зорку. Вядома, што пасля выхаду кнігі «Карпаратыўны верлібр як сродак цімбілдзінгу» карпарацыя Sony заключыла з містарам Фуджы кантракт, па якім ён абавязаўся напісаць восем верлібраў для гэтага прамысловага гіганта за 780 000 000 енаў, што прыблізна роўна 28 мільёнам даляраў. Па кантракце гэтыя вершы будуць апублікаваныя толькі пасля смерці спадара Фуджы або пры банкруцтве кампаніі Sony.*

*Вершы ў гэтай нізцы прадстаўляюць усе тры кнігі японскага паэта і некалькі тэкстаў, што былі надрукаваныя ўжо пасля выхаду апошняй кнігі.*

## *Тры панюшкі рысу*

Адной ночы я прывёў дахаты дзеўку.
І яна адразу захацела пажэрці.
Дзе ўжо гэтыя сучасныя дзеці:
абы пажэрці, рабіць зусім не ўмеюць.

А дома ў мяне не засталося ані рысавага зярнятка.
Адно ў місе можна яшчэ было яго панюхаць.
Акурат было на тры панюшкі.

І яна тады кажа мне.
«Нюхай ты першы».
Я разлічыў, што так мне будзе дзве панюшкі,
А ёй — толькі адна.

А хто гэтых анарэксічак ведае,
Можа, зусім капыты адкіне?

«Ты нюхай першая», — кажу.

Калі яна ўдыхнула, у пакоі адразу стала мала паветра,
А ўвушшу заклала, як у самалёце,
Ажно зглынуць прыйшлося.

Ёй таксама прыйшлося зглытваць.
Лёгка абышоўся,
Усяго толькі тры панюшкі рысу.

***

Ва ўніверсітэце
я слухаў курс еўрапейскай літаратуры.
Кажу вам, найлепшы еўрапейскі пісьменнік — Гогаль.
Вось узяць ягоны раман «Мёртвыя вушы».
Падзеі адбываюцца ў XIX стагоддзі.

Глухі расійскі самурай
падарожнічае па Расіі
і збірае глухіх сялянаў,
набываючы іх за дробныя медныя манеты
у дрэнных, сквапных самураяў.

І калі глухіх сялянаў назбіралася шмат тысячаў,
ён перавёз іх усіх за Урал,
каб быць бліжэй да Японіі.

І атрымаў на ўсіх сацыяльную дапамогу ад расійскага
ўрада,
і ўсім зрабіў аперацыі, і набыў слыхавыя апараты.

А пасля яны доўга спяваюць песні на мове
глуханямых.

Кажу вам, руская літаратура вельмі займальная.

***

Восеньскім ранкам я любаваўся Токіа.
І пералез праз агароджу хайвэя,
і прыхіліўся да апорнага слупа,
і слухаў, як горад вібруе
і гудзе.

Натуральна ж, ён уджаліў.

«Гэй, ты! Підараска! —
закрычалі на мяне ахоўнікі. —
А ну-ка рукі на голаў і на калені».

Яны нават мяне не абшукалі.
так і здалі звязаным у паліцыю.

А паліцэйскія мяне таксама не абшукалі.
А пракурорка нічога не папрасіла на судзе.
У яе лад у доме і тры гады да дзяржаўнай пенсіі,
чаго ёй прасіць пра штосьці?

Ад адваката я адмовіўся, хутка зразумееце, чаму.

«Містар Фуджы! — строга сказаў суддзя. —
Ваш учынак нельга пакінуць без пакарання.
Вы заяўляеце, што вы — паэт,
таму я абавязваю вас напісаць верш
пра хараство ранішняга Токіа і пра тое, што
ён гудзе і ў ім да халеры трутняў.
Так і напішыце там: «Я, Акіта Фуджы, —
труцень у пчалінай сям'і».

Мараль гэтага верша не ў тым,
што ўсе японскія суддзі маюць сапсаваны
паэтычны слых,
мараль у тым, што калі ты ўжо бадзяешся невядома дзе
бухі зранку,
дык хоць рабі гэта ў той прэфектуры,
дзе ў цябе суддзя — швагер.

## *Он ел суп**

Паэтам я стаў выпадкова,
проста я прыгажэй за ўсіх
напісаў у першым класе
ОН ЕЛ СУП.
Я напісаў так прыгожа,
што мог нават стаць каліграфам,
каб не піў столькі.
Настаўніцы глядзелі на іерогліфы
ОН ЕЛ СУП,
і ім хацелася верыць, што за рыскамі

бачна талерку,
і рыс,
і ЯГО бачна.
У паваеннай Японіі было мала мужчынаў,
не зварʼяцелых на той вайне.

** У арыгінале верш называецца двума іерогліфамі, якія не ўжываюцца ў сучаснай японскай мове (дагэтуль ужываюцца ў кітайскай), але ў часы дзяцінства аўтара кожнаму, хто паступаў у першы клас пачатковай школы, трэба было ўмець напісаць іх. Даслоўны пераклад гучаў бы па-беларуску так: «Макакі жывуць у гарачых (гейзерных) крыніцах».*

## *Нашто японцы?*

Калі аблятае сакура,
калі з Кітаю дзьме пранізлівы вецер,
калі дым з комінаў
нябачны ў месячным святле,
я заўсёды думаю:
«Нашто японцы? Нашто японцы?»

## *Рыс*

Кажуць, што сялянам не дазвалялі есці рыс.
Толькі самураі елі рыс.
І правільна, я лічу.
Нехер балавацца.

## *Катана*

У спадчыну ад бацькі я атрымаў катану.
А той атрымаў яе ад дзеда.
Не ведаю, скуль у селяніна катана.
Спіздзіў, напэўна.

## *Харакіры апоўначы*

Што можа быць прыгажэйшым
за харакіры апоўначы?

*Пераклаў з японскай Андрэй Адамовіч*

# *Цімур Хоміч*

## ***ці існуе месца, дзе ты будзеш анёлам?***

вось растлумач мне, кажа мне мама, растлумач,
што мне казаць пры сустрэчы знаёмым, што мне казаць
гэтым дурнаватым суседзям,
што ўжо, пэўна, натапырылі вушы, што? — кажа яна.

я сяджу да яе спінаю, пазіраючы на манітор: там якраз
крытык А выклала новы пост у жэжэ —
мы не знаёмыя з ёй асабіста, але мяркуючы па
тым, што яна выкідае ў жэжэ, у яе ў галаве
бардак. у мамы таксама бардак. ва ўсіх сёння,
відаць, бардак, балазе не ўсе мы — літаратурныя крытыкі.

(мама не сцішваецца; крытык піша пра бэз і надвор’е.)

вось растлумач мне, кажа мне мама, растлумач,
што мне казаць усім гэтым людзям, яны пытаюць:
як твой сын, чым ён займаецца, дзе працуе,
што мне казаць ім, што ён
сядзіць у чатырох сценах, як нейкі манах,
што ён лічыць, што светператварыўся ў пекла,
што навокал усе вар’яты, а па начах піша нейкае трызненне?

мама, я пішу вершы і прозу, вершы і прозу.
калі ты нарэшце возьмешся за галаву?
мне сорамна, разумееш, мне сорамна.

мне таксама сорамна, кажу я і выходжу паліць на гаўбец.

божа, думаю я, шукаючы цыгарэты,
я тут усяго толькі месяц,
а мяне ўжо задзяўбаў гэты горад, што я раблю тут?

нават птушкі грэбуюць грэбанай гэтай правінцыяй.

менавіта адсюль у сталіцы еўрапейскіх
краін кантрабандай вязуць арго
менавіта тут мужчыны збіваюць жанчынаў
а жанчыны даруюць
але ці ёсць у іх выбар
менавіта тут найтаннейшыя надзіманыя дзеўкі
менавіта тут я апусціўся настолькі што не памятаю
калі ў апошні раз чысціў зубы

менавіта тут я пішу вершы і прозу можа калі надрукуюць
менавіта тут выконваюць шлюбныя абавязкі
менавіта тут я ніколі не хацеў жыць
менавіта тут гомасексуаліст гэта значыць підар
менавіта тут я не п’ю гарэлку і нават піва

менавіта тут на пабудову культурна-аздараўленчага
цэнтра задзейнічалі
аднаразовых мужчынаў
менавіта тут старыя выскокваюць з вокнаў ад адзіноты
менавіта тут працуюць мой брат і тата
менавіта тут не сустрэць лесбіянак бо яны
небаракі адсюль з’язджаюць
менавіта тут я бясспрэчна найлепшы паэт бо
менавіта тут адны далікатныя млявыя лірыкі
але іх гаўнасмокаў друкуюць

менавіта тут мне сорамна
менавіта тут кудысьці падзеліся мае цыгарэты
менавіта тут самыя адмарожаныя адмарозкі
менавіта тут я чытаю «ўолдэна» генры дэвіда тора
менавіта тут мяне калі-небудзь пахаваюць
менавіта тут на праспекце міра трыццаць
тры кватэру здымае д’ябал
менавіта тут жыве мая маці я часам яе ненавіджу
менавіта тут найжахлівейшыя гопнікі на планеце

менавіта тут афармляюць дамовы
па абавязальніцтве штогадовай
пастаўкі чалавечае сыравіны для далейшай перапрацоўкі

менавіта тут я ананірую
менавіта тут штодзень нараджаецца новы дыктатар
менавіта тут дзякуй богу няма літаратурных крытыкаў
што выкладаюць
пасты пра надвор’е й бэз у жэжэ

менавіта тут калі пішуцца вершы я адчуваю млоснасць
менавіта тут нараджаюць упакаваных
у кардонныя скрынкі дзяцей з
гарантыйным квітком тэрмінам на адно жыццё не болей

менавіта тут клануюць упэўненасць
у неабходнасці чалавека на гэтым свеце
менавіта тут як нідзе я ненавіджу сябе менавіта тут...
я раптам
разумею, што
забыў цыгарэты
на шафе

## *седзячы ў электрычцы*

«асіповічы–менск»
і пішучы гэты верлібр
я выразна ўсвядоміў
што не ўмею
пісаць пра тое
пра што не маю
хоць якога-кольвечы
уяўлення
пра тое
чаго не бачыў
у чым не браў удзелу
а магу напісаць
адно пра тое
як стаяў
з халодным лязом на шыі
ля сцяны
панэльнага дома ў бабруйску
як п'яны й абрабаваны
даваў паказанні мянтам у капылі
як напіваўся ў барысаве з барысаўскімі габрэямі
як напіваўся ў віцебску на фестывалі пурым
на фестывалі арт-сесія
як сустракаў сябра
пасля ягонай адседкі ў жодзіне
як паліў траву з расійскімі
акторамі ў берасці
як здымаў прастытутку за сорак
у.е. у смаленску
як закахаўся ў менску
як вучыўся ў менску

як працаваў у менску
як рэзаў запясце ў менску
у доме барачнага тыпу
па вуліцы нававіленскай
дзе не было ні гарачай вады
ні ванны
ні ўнітаза
ні будучыні
як вар’яцеў ад самоты на праспекце газеты праўда
як ля палаца чыгуначнікаў атрымаў кулаком па пысе
як чытаў верлібры ў маскве
як чытаў верлібры ў львове
як верлібры пішуцца
калі ты едзеш у менск
з гарадскога пасёлка мачулішчы
у электрычцы
«асіповічы–менск»
і ледзь не плачаш
ледзь стрымліваеш сябе
каб не завыць
не закрычаць
пад гэтыя шчымлівыя гукі
пад гэтыя журботныя спевы
пад гэты невыносны лямант акардэона
«трэба з гэтым штосьці рабіць
так немажліва болей
шэрыя мае
сонныя мае
брудныя мае
расчараваныя мае
суайчыннікі»

## ***нічога не атрымліваецца***
*(верш-маніфест)*

я хачу быць таленавітым у грамадстве няздараў
і пісаць цікавыя кнігі ў грамадстве
дзе ніхто не цікавіцца кнігамі
выдавацца не за ўласныя а за выдавецкія грошы
у грамадстве дзе выдаўцы выдаюць
не за ўласныя а за грошы аўтараў

я хачу быць бунтаўніком змагаром маргіналам бітнікам
і друкаваць свае альтэрнатыўныя творы
ў дзяржаўных часопісах
бо ў гэтай праклятай дзяржаве
апроч дзяржаўных часопісаў
толькі глянцавыя часопісы але там я хачу
друкавацца таксама

я ненавіджу брудных калгаснікаў
дый не меней брудных працоўных
і хачу каб гэтае рускамоўнае быдла з’ехала
куды-небудзь з краіны
бо матэрыяльныя каштоўнасці як вядома
растуць нібы грушы на дрэвах
а яшчэ іх прывозяць нам з захаду і расіі
і можна лёгка набыць іх у краме

я хачу быць здаровым псіхічна ў псіхічна хворым
грамадстве
ніколі не піць нейралептыкаў снатворных і супакаяльных
у грамадстве дзе адна палова псіхічна хворых
уначы засынае з цяжкасцю
бо другая палова псіхічна хворых да ночы псуе ім нервы

хачу мець аўтамабіль але адмаўляюся марнець
у дарожных корках
у грамадстве аўтамабілістаў што марнеюць
у дарожных корках
маю намер зрабіцца свабодным і адгарадзіць
сябе ад грамадства
дзе ўсе несвабодныя і залежныя і кожны
марыць пра аўтаномію

хачу дыхаць крыштальна чыстым паветрам
калі навокал паветра бруднае
і хачу каб усе неадкладна перасталі забруджваць паветра
бо няўжо вы сволачы не разумееце
што неўзабаве не будзе чым дыхаць
у гэтым забруджаным горадзе па якім я імчуся
на аўтамабілі

а я хачу каб паветра было чысцюткім
празрыстым і пахла слівамі
хачу падарожнічаць па жыцці з усмешкаю
на твары сонечным
хачу быць фізічна здаровым шчаслівым быць
і есці экалагічна чыстыя смачныя печыва сочыва

мець як мага больш полавых зносінаў хочацца
пампаваць у інтэрнэце экстрэмальнае порыва
апранацца ў шыкоўных бутыках на «экспабеле» хораша
сілкавацца ў «планеце сушы» здорава

піць гарбату фруктовую ў напышлівым «лёндане»
пачуваючыся напаўэмігрантам напаўбагемаю
хочацца ў клубах начных бавіць час
па-над танцполам лётаючы
ды ў казіно пазбаўляцца ад лішніх грошай
на злосць усім экстрэмістам левым

выставы канцэптуалістаў і поп-арт’ыстаў
хачу наведваць клёвыя
і тэатр дзе паказваюць ёнэска й бэкета
у кіно хадзіць на кінастужкі тэры гільяма і братоў коэнаў
карацей закарцела мне існаваць шчасна радасна і не бедна

экзістэнцыйна інтэлектуальна але і радасна
жыць мне хочацца
ніколі не ведаць ані горычы ані скрухі
ані розных казлоў што псуюць настрой розных
цімураў хомічаў
ды вось толькі якая атрымліваецца няпруха

гэтае грамадства фізічна слабых няшчасных
панурых стомленых ад механічнай нятворчай працы
грамадства забруджанага паветра ежы чарнобыльцаў
аматараў выпіць і абдзяўбацца

грамадства венерычнай хваробы і
ва-ўсіх-сферах-жыцця-мастурбацыі-без-эякуляцыі
грамадства дзе большасць людзей харчуюцца дома
апранаюцца на ждановічах блядскіх

грамадства партызан-папарацы
з «беларусьфільма» жабрацкага
грамадства якое зусім не ўмее ствараць мастацтва
а тое мастацтва што гэтае грамадства
ўмее ствараць успрымаецца
як кімсьці ўжо мацаная маца ці дэградацыя

грамадства айцоў-класіцыстаў з той генерацыі
што шчэ пакутавала пад акупацыяй

грамадства запрыгоненых творцаў прыдворных паяцаў
не людзей а нейкіх фрыкаў фашысцкіх фрыцаў
габрэйскіх кацаў

гэтае грамадства
мне перашкаджае зрабіцца шчаслівым
зрабіцца шчаслівым
шчаслівым

у мяне тууууууууууууут
у гэтым грамадстве
чамусьці
а чаму не ведаю

ну зусііііім
ну зусіііііііііііііім

анічога
нармалёвага
не атрымліваецца

і мусібыць ужо ніколі не атрымаецца

і вось яшчэ што
вось што яшчэ

пасля ўсяго мною тут сказанага
я хачу каб вы ставіліся да мяне з прыязнасцю

бо ў грамадстве дзе кожны плявузгае ўсё што яму захочацца
усе адно аднаго ненавідзяць

## *апошні вечар інтэрнэт-сёрфера*

*пераймаючы В. Нугатава*

прыйшоў з працы
і прыняў душ
з’еў тры бутэрброды
з каўбасой селядцамі і сырам
пачухаў яйцы
сеў у фатэль
уключыў ноўтбук
выйшаў у сеціва
зайшоў на мэйл
праверыў на мэйле пошту
зайшоў на яндэкс
праверыў на яндэксе пошту
зайшоў на гмэйл
праверыў на гмэйле пошту
зайшоў у кантакт
выклаў у кантакце пост
пра сіямскіх котак
зайшоў у фэйсбук
выклаў у фэйсбуку пост
пра выставу ў галерэі у кароткае
зайшоў у жэжэ
выклаў у жэжэ пост напісаўшы
неяк сёння вечарам сумна
заўтра пайду
на выставу ў галерэю у кароткае
а сёння і не ведаю нават
чым заняцца
можа куды пайсці?
і пайшоў на хартыю
і прачытаў навіны

і пайшоў на будзьму
і пакінуў каментар
і пайшоў на нашу ніву
і прачытаў навіны
і пайшоў на куку.орг
і пакінуў каментар
і пайшоў на навіны.бай
і прачытаў навіны
і пайшоў на 34маг.нэт
і пакінуў каментар
і пайшоў на тут.бай
і прачытаў навіны
пацікавіўся курсам даляра
пацікавіўся надвор’ем на заўтра
не забываючы
раз-пораз пачухваць яйцы
затым падняўся
адышоў на некалькі крокаў
пастаяў з хвіліну вагаючыся
набіраючы паветра ў грудзі
і неўзабаве кінуўся
галавою ў шафу

зоркі
зорачкі
прыгожыя блішчастыя знічкі
срэбныя і залатыя
замільгацелі наўкола нібы
тысяча тысяч німбаў
пярсцёнкаў
пацерак нейкіх
цукерак
нейкае нібы рыа
нейкае нібы жанейра

нібы нашэсце пярэстых талібаў
нібы набег ружовых метысаў
і памаранчавых неграў
нібы тыя сняжынкі з паперы
якія
наклейваў
на шыбы
калі быў
маленькі
нібы
тысяча тысяч
угору падкінутых еўра

зоркі
зорачкі
знічкі
за прамінулы тыдзень
ці нават месяц
мажліва стагоддзе
ён не бачыў нічога прыўкраснейшага

зоркі
зорачкі
знічкі
пакружылі і
зніклі

і ўсё праглынула цемра

## *самаадчуванне*

я рэспектабельны
дагледжаны
гладка паголены
апрануты ў дарагі гарнітур
у мяне дарагі эксклюзіўны аўтамабіль
трохпавярховы дом за дзесяць кіламетраў ад менска
красуня жонка
рахунак у банку
я дырэктар камерцыйна паспяховай фірмы
у мяне мноства планаў адносна будучыні
нават сусветны эканамічны крызіс
не здолеў папсаваць мае справы
толькі не трэба рабіць ашаломлены твар
зарабіць капітал цалкам мажліва
нават у нашай жабрацкай краіне
трэба ўсяго толькі мець галаву на плячах
і калі вашая клініка мае патрэбу ў фінансаванні
медычнае абсталяванне там
мяккая мэбля і ўсё такое
а вашая клініка пэўна ж мае ў гэтым патрэбу
я магу пад узаемавыгадны працэнт
пазычыць вам грошай
аніякіх праблемаў
хоць зараз пазычу
а хочаце
уладкую вас да сябе
гандлёвым прадстаўніком
фінансавым менеджарам
менеджарам па продажах
менеджарам па персанале
а хочаце
замдырэктара

як вам гэткая прапанова
дзеля чаго вы гібееце ў гэтакім
жудасным месцы
у гэткіх жахлівых умовах
у вас тут надзвычай няўтульна
і пах
які невыносны пах
чаго вы спужаліся
чаго нахмурылі бровы
я падаюся вам незвычайным
мама таксама лічыць
што я незвычайны
яна крыху перабольшвае
занадта чуллівая
стрэсаняўстойлівая
не мае актыўнай жыццёвай пазіцыі
не здольная да камунікацыі
слабая
непаспяховая
я за яе хвалююся
нервуецца
прымае нейкія лекі
вось прыцягнула мяне да вас
навошта
незразумела
у гэтым няма неабходнасці
я пачуваюся проста цудоўна
дый мала хто пачуваецца блага
у дзесяцігадовым узросце
і вы пра тое ведаеце лепш за мяне
пагадзіцеся доктар

# *Юля Цімафеева*

***

Я зразумела, што хачу кахаць
некага нашмат старэйшага.
Таго, хто бачыў і зведаў больш,
таго, каму няма куды спяшацца.

Напрыклад, цябе, мой горад.
Ты мог бы быць маім бацькам,
маім дзедам,
маім прапрапрапрадзедам.
Тысяча дзвесце гадоў нашай розніцы
хіба перашкода
для сапраўднага кахання?

І вось мы разам.
Я абдымаю нагамі твае худыя вузлаватыя вуліцы.
Пальцамі гладжу сухую і бледную скуру
тваіх прысадзістых дамоў.
Цалую стомленыя, маршчыністыя камяні
тваіх старых сцен.
Прыкладаю вуха да сэрца храмаў
і слухаю, як перарывіста б’ецца час у іх званіцах.

Якім ты быў у пару сваёй маладосці,
мой горад, —
багатым, бліскучым і шумным?

Гандлёвыя баржы шукалі прыбытку
за тваімі шчодрымі мурамі,
змяняючы адна адну,
быццам прадажныя дзеўкі,
але я не раўную.

Піраты і хцівыя ваяры
накідвалі пятлю на тваю
каменную шыю, рабавалі,
выпальвалі кляймо
на тваіх гордых грудзях.
Калі хаджу па траве
тваіх пакатых узгоркаў,
то ступнямі адчуваю шнары,
што ўжо не баляць.

Але цяпер усё мінула,
і, нібы дачцэ, ці ўнучцы,
ці маладой каханцы
на змярканні,
ты расказваеш мне
свае гісторыі,
а ў вокнах тваіх дамоў,
быццам уваччу,
загараюцца агні.

Раніцай мы прачынаемся разам,
і твае чайкі
блытаюцца ў маіх валасах,
як у аблоках,
а твае гараджане
спакойна й бязмэтна блукаюць
сцежкамі між руін,
быццам думкі таго,
каму няма куды спяшацца.

## *Раніца ля Кафедральнага сабора*

Восем кароткіх удараў
выцягваюць па ноце
з высокіх званоў
і вяжуць вузельчыкамі
мелодыю на марскім узбярэжжы.
Сетку нясканчаную, недаплеценую
падхопліваюць паспешныя галубы
і нясуць на сівыя раманскія руіны,
на рудыя вострыя дахі,
на голае засяроджанае
голле дрэў.

І ловяць мяне, скаваную наваколлем,
і чорнага сабачку з паднятай нагой,
і яго стрыманую гаспадыню,
і яе акуляры на носе,
і вецер, што адзіны з нас скача пад сеткай мелодыі
на пажухлай траве
і ліхаманкава прасоўвае рукі
ў паўзы між вузельчыкаў.

Але таму што няма нічога вечнага,
званар нарэшце даплятае сеціва музыкі,
апошнія ціхія ноты кладзе махрамі,
і калі званы заміраюць надоўга,
мелодыя растае сакавіцкім снегам,
і, быццам зямля, яе паглынае паветра.

Разняволены вецер кідаецца ў мора,
чорны сабачка нарэшце апускае нагу,
а я паварочваюся тварам да сонца.

## *Новая вопратка караля*

Сяджу ў майстэрні фатографа
і слухаю Баха.
На цагляных сценах XIX стагоддзя —
чорна-белыя партрэты
голых мадэляў:
іх вусны, плечы,
грудзі і сцёгны.

А барочная музыка аркестра
ў чорным прайгравальніку
палачкай дырыжора,
быццам іголкай,
праколвае секунду за секундай
і вышывае ў паветры
каляровыя кветкі.
Шыўкі скрыпак, клавіраў і флейтаў
роўна кладуцца
на сцены,
на фота мадэляў,
аздабляючы
матэрыяй часу
пустэчу.

І я думаю,
ці напраўду быў голым кароль,
калі пад літаўры і горны
прыдворнага аркестра
горда ішоў па плошчы,
адчуваючы на сабе
ядваб і аксаміт музыкі,
вытанчанай,
зашпіленай на ўсе гузікі.

А грубы натоўп
яе проста не здолеў
разгледзець.

## *Гара*

Я стаю ля гары
і прашу забраць мяне назад.

А гара маўчыць,
а яна не прызнаецца,
што мы некалі былі знаёмыя,
і што гэта яна выпусціла
мяне на свет.

Ля гары цёмна, халодна і мокра.
Праз імжу я крычу штомоцы,
але крыкі бумерангам рэха
вяртаюцца назад,
і, паравёўшы дыханне,
я крычу наноў.

А гара глухая,
а гара сляпая,
і нават калі з кулакамі
кідаюся на яе вострыя камяні
і выю ад роспачы і болю,
ніводны з яе ўступаў
не скаланецца,
не ўздрыгне,
не памякчэе.
Гара ўсё гэтак жа
для мяне закрытая.

Але мне няма куды ісці,
больш няма чаго шукаць,
больш няма да каго прыпасці.
За спінай — чужая чэрань.

І калі, знясіленая,
скрываўленая,
у слязах і адчаі,
я падаю, абдымаючы
яе неахопную шыю,
і засынаю,
гара расплюшчвае вочы,
раскрывае ляніва рот
і выконвае маю просьбу.

***

Я ліжу твой партрэт.
Фотапапера пахне клейстарам,
Але не мае смаку.
А ты пад ёй пахнеш
Сарваным дзьмухаўцом:
Корсткай сцяблінай
І жоўтым пылком
З танюсенькіх пялёсткаў.

Я ліжу твой партрэт
І языком спрабую сцерці
След дзьмухаўцовага малачка
Над верхняй губой
І носам быццам кранаюся
Твайго носа,
Але след пылку на ім
На мне не пакідае следу.
Я ліжу твой партрэт,
Злізваю вусны,
Злізваю нос,

Злізваю шчокі і вочы,
Ліжу кароткую шчотку тваіх валасоў,
Але яны не колюць язык,
І фотапапера ўсё гэтак жа
Не мае смаку.

Я злізала цябе
З жоўта-зялёнага поля
Маёй памяці —
Белы пусты абрыс.
І толькі там,
На цёплай зямлі
За межамі фатаграфіі,
Куды языком не дабрацца,
Ляжыць і пахне
Табой сарваны
Дзьмухавец.

***

Даўгія рукі майго ўяўлення
абвіваюць тваю шыю.
А вусны майго ўяўлення
цалуюць цябе ў вуха і шэпчуць туды,
але што — я не чую.
Шчокі майго ўяўлення пунсавеюць,
і грудзі майго ўяўлення
пачынаюць дыхаць глыбей.

Мне робіцца няёмка.
Я заканчваю размову,
цісну тваю руку
і сыходжу,
пакідаючы вас
з маім уяўленнем
сам-насам.

# *Воля Чайкоўская*

## ***Амаж А. К.***

У шкле груваcткіх кубкаў
Адлюстроўваецца строгі вечар.
Ноч надзявае сваю гіпюравую сукенку.

Хутка спаць.
На вузкім плато паліцы вагона-плацкарта
Не ўпірайся мне ў жывот каленкай.

***

Доўгія мяккія валасы
Згубіліся ў жоўтых калоссях пшаніцы.
Адзінокія галасы.
Навальніца.
Дай мне халоднай вады напіцца,
Што была
З другога боку круглага стала,
Засланага белым.
Чужая котка малака хацела,
І танчыла зіма.
Я калі штосьці і магла —
Спусціла ўгору па прыступках.
Схаваліся сабакі ў будках.
І танчыла зіма.

***

Гэта паэзія?
Тое, што я думаю,
Гэта паэзія?
Гэта паэзія,
Калі дактары глядзяць
На маю кардыяграму
І заўжды здзіўляюцца:
— Што гэта за словы?
На якой гэта мове?
О-о! Ды ў вас брадыкардыя!
У вас сэрца баліць?
— Баліць. Анягож!
Дайце! Дайце!
Я сама прачытаю, што напісала маё сэрца!

***

Тугія твае тонкія «толькі»!...
Топчамся, трымцім, трасемся.
Ты! Цябе! Колькі?
Куды ўвесь твой спрыт падзеўся?

Фіялкі расцвілі на небе.
Цюльпаны ў тваіх далонях.
Мой кожны ўздых — малебен.
Пагоня на белых конях.

Рассунуцца блакітныя дзверы.
Расплюшчацца твае вочы.
Што хочаш бяры, звер мой!
Усе твае — мае ночы!

***

Сцяжкамі-пацалункамі
На маім жываце
Вышываеш карункавае
Суквецце.

***

У гэтым душным апакаліптычным пыльным горадзе,
Дзе не проста мора,
Дзе акіян паміж двума рознымі чалавекамі,
Мы бавілі час, мераючы адно аднаму тэмпературу,
У такт секунднай стрэлцы рухаючы павекамі.

Лічылі гадзіны, хварэлі на ангіну, лячыліся.
Узгадвалі летнікі, і лецішчы, і высылкі на вёску
да бабулі на ўсе вакацыі.
Мы нейк так адно да аднаго прыклеіліся, спрычыніліся.
І толькі калі мы разам, свет мае сэнс,
А Бог мае рацыю.

## *Маскарад*

Мне птушкі пакусалі рукі.
Параніла калені мора.
І горы плачуць за плячыма.
Так немагчыма!

Распаліся на фразы суткі.
Рассыпаліся на вітанні.
Я не  магу сябе сабраць і
Я не з вамі.

Засуну поўню пакрывалам.
З палёгкай уздыхну ў цемры,
Хай ва ўсю моц пануе ноч!
А ты як хочаш!

## *Уладзь Лянкевіч*

*хтось прысягае што кажа праўду*
*мяне даўно не цікавяць такія спевы*
*дый наогул я аддаю перавагу джазу*
*і табе амаль што веру*
*я так стараўся прысніць Акудовіча*
*што перастаў бачыць у снах што-колечы*
*месяц фарбуе жоўтым колерам ваду ладдзю*
*й ад прыроды чырвонае вогнішча*
*і пакуль дом абрастае рэшткамі ежы смеццем*
*гісторыямі метафарамі*
*я адчуваю сябе на хвалях бяльмом*
*гойдаюся з вёсламі горблюся*
*перашэптваемся з табой дыфірамбамі*

*я ведаю ты не любіш мачыць чаравікі*
*таму напіваюся ноччу выціраю сабой з травы расу*
*пакуль я заняты рэха даносіць з берага:*
*«пабудзь хоць раз чалавекам*
*а не касманаўтам няхай-ты-хер-*
*па-сутнасці і гэтак далей гэтак далей»*
*а я ляжу на ўзбярэжжы маёй для цябе краіны*
*гадаю гадаю пры чым тут хайдэгер*

возера Рака, чэрвень 2013
слэм-экспромт

# Змест

*Літаратурна-мастацкае выданне*

# АЗЁРНАЯ ШКОЛА ПАЭЗІІ

*Творы фіналістаў літаратурнага конкурсу*
*імя Максіма Танка*
*і ўдзельнікаў паэтычнага пленэру,*
*прысвечанага 100-годдзю Максіма Танка*
*(возера Рака, Браслаўшчына, чэрвень 2013)*

Укладальнік і рэдактар: Андрэй Хадановіч
Карэктар: Ганна Янкута
Дызайн вокладкі: Віталь Сыч
Вёрстка: Настасся Уласава